# Як весьці атраду коопэрацыйную працу.

За апошні год досыць шырока была разгорнута коопэрацыйная работа. Яна выяўлялася ў тым, што піонэрскія атрады разам з настаўнікамі організоўвалі школьныя коопэратывы. У шмат якіх мясцох коопэратывы організоўваліся і бяз удзелу піонэрскіх атрадаў.

Такая форма коопэратыўнай работы сябе не апраўдала. Яна разьвівала ў вучняў цягу да навучаньня выгадна гандляваць. Апрача таго, часта здараліся растраты. Гэта і прымусіла паставіць пытаньне яшчэ раз аб коопэрацыйнай працы і формах яе.

Апошні пленум Цэнтральнага Бюро Юных Піонэраў па гэтаму пытаньню сказаў: „Коопэрацыйная асьвета ў школе павінна застацца і надалей. Праводзіцца яна павінна праз коопэрацыйныя гурткі, практычны ўдзел вучняў у працы мясцовай коопэрацыі".

Хто-ж зьяўляецца пачынальнікам у правядзеньні гэтае працы? Перш за ўсё, за гэтую справу павінен узяцца піонэрскі атрад, які і намячае, пад кіраўніцтвам ячэйкі КСМ, канкрэтныя формы правядзеньня яе. У школе гэтая праца організоўваецца вучнёўскім самакіраваньнем па ініцыятыве фарпоста або атрада, пры бліжэйшым удзеле школьнага савету і настаўнікаў.

Канкрэтная праца ў гэтым напрамку піонэрскага атраду разам са школай можа выяўляцца вось у чым.

Піонэрскі атрад разам са школай намячаюць плян правядзеньня шырокай агітацыйнай працы сярод насельніцтва па коопэрацыйнаму будаўніцтву. Дзеля гэтага піонэры, вучні растлумачваюць сваім бацькам і суседзям значэньне коопэрацыі, чытаюць артыкулы адпаведнага зьместу і інш. Піонэрскі атрад з вучнёўскім самакіраваньнем наладжваюць вечар у школе з прыцягненьнем бацькоў, сялян, на якім высьвятляюцца пытаньні коопэрацыйнай працы і падлічваюць, што канкрэтна ўжо зроблена піонэрамі і вучнямі. Уся гэта праца дапаможа ўцягненьню бацькоў у сябры коопэратываў.

Дзеля таго, каб піонэры і вучні самі былі добра знаёмымі з пытаньнямі, зьвязанымі з коопэрацыяй, атрад ЮП і самакіраваньне вучняў організуе пры школе гурток, дзе і вывучаюцца гэтыя пытаньні.

Многія школы далёка знаходзяцца ад коопэратываў і вучні ня маюць мажлівасьці ў адзіночку купляць у ім розных прыладаў. Пленум ЦБ ЮП кажа, што школьных коопэратываў ствараць ня трэба, а „самакіраваньне можа організаваць колектыўную закупку для вучняў розных школьных прыладаў".

Самакіраваньне зьяўляецца організатарам колектыўных закупак розных патрэбных прыладаў для вучняў абавязкова ў коопэратыве і перадае іх вучням.

Коопэрацыйная праца піонэрскіх атрадаў, школ павінна заняць вялікае месца, патрабуецца шырокая ініцыятыва ў яе правядзеньні саміх вучняў, сталая праверка гэтай працы, прыцягненьне да кіраўніцтва працай культурных сіл.

---

## Зьмест.



---

Менск, 1-я Дзярж. друкарня. Зак. № 151. У ліку 1.800. Галоўлітбел № 21220.






УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 2 р. 40 к.
на 6 м. . . 1 р. 20 к.
на 3 м. . . — 60 к.
на 1 м. . . — 20 к.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

№ 10. КАСТРЫЧНІК. 1926 г.

# Больш перакананасьці.

*(З прамовы т. Крупскай на пленуме ЦБ ЮП).*

Калі размаўляеш з піонэрамі, дык заўважаеш такую рэч: яны, піонэры, часамі палітычна падкуты ў тым сэнсе, што яны шмат чаго ведаюць з газэт. Але разам з гэтым кідаецца ў вочы адсутнасьць унутранное перакананасьці. Дзеці, зразумела, горача паўтараюць тое, што яны прачыталі і пачулі ад павадыра, але чагосьці ўсё-ж такі не хапае.

І вось, калі ўдумацца ў гэту зьяву, чаго не хапае і што патрэбна дзецям і што загартовае іх у працы, мне здаецца, што гэта—*перакананасьць*. У гэтых адносінах названае слова можа здацца залішне вялікім і гучным. А, аднак-жа, іменна аб перакананасьці трэба гаварыць.

Калі паглядзіш жыцьцё сарых рэволюцыянэраў, як яны расьлі, дык пабачыш, што на рэволюцыйны шлях іх звычайна штурхала якое небудзь моцнае перажываньне. Гэта перажываньне адбывалася ў дзяцінстве і прымушала чалавека пановаму глядзець на жыцьцё.

Прывяду прыклад: Уладіміру Ільлічу ў дзяцінстве прыходзілася наглядаць, як мяшчане, абывацелі з пагардай заўсёды гаварылі аб яўрэях, татарах і г. д. І вось, на Ўладіміра Ільліча, калі ён быў дзіцем, гэта зрабіла надзвычайна моцнае ўражаньне. Ён пасьля мне апавядаў: „Заўсёды, бывала, чуеш, калі аб яўрэю ідзе гутарка, абавязкова скажуць—„жыд", калі аб татарыну, дык абавязкова скажуць—„князь".

Гэтыя пагардныя адносіны да людзей іншай нацыянальнасьці, над якімі заўсёды сьмяяліся і якіх зьняважалі, прымусіла Ўладіміра Ільліча з дзяцінства задумацца над нацыянальным пытаньнем. Калі прагледзець творы Ўладзіміра Ільліча, дык вы ўбачыце, якую ўвагу ён заўсёды аддаваў нацыянальнаму пытаньню. І вось гэтае перакананьне аб неабходнасьці раўнапраўя нацыянальнасьцяй склалася ў Ільліча дзякуючы яго ўражаньням у дзіцячыя гады.

Гэтакія-ж факты мы можам знайсьці і з жыцьця іншых рэволюцыйных дзеячоў.

Мне здаецца, што мы вельмі мала зьвяртаем увагі на тое, каб прывіваць у нашых піонэраў гэту нянавісьць да ўсякай несправядлівасьці, уціску, якіх яшчэ даволі маецца ў акаляючым нас жыцьці.

У нас піонэрчык усё раскажа па пунктах: у якім годзе Маркс радзіўся і г. д., а часта абміне той ці іншы непарадак у жыцьці, не заўважыць таго, як у сям'і дзяўчынку ня пускаюць у школу або перагружаюць работай зьверх меры, не заўважыць, напрыклад, дрэнных, нецярпімых адносін да яўрэяў. Трэба сказаць проста—у нас і цяпер яшчэ разьвіваецца анцісэмітызм. А ці абураюцца супроць гэтага піонэры, як павінны абурацца? „Інтэрнацыянал" сьпяваюць, а ня ўмеюць зьвязаць тое, што бачаць кругом з тым, што чытаюць у кніжках. А ў гэтым ўся справа. І на гэта трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу.

Калі мы не расчынім піонэру вочы так, каб ён мог добра ўгледзець тое, што вакол яго робіцца, не запалім у ім жаданьня пакончыць з цёмнымі бакамі акаляючага жыцьця, мы ня выхаваем з піонэра барацьбіта за лепшае будучае.

# Дзевяць гадоў.

*(Успаміны комсамольца).*

**Першая бальшавіцкая рэволюцыя вырвала першую сотню мільёнаў людзей з імпэрыялістычнага сьвету. Чарговыя рэволюцыі вырвуць з гэтага сьвету ўсё чалавецтва.**

*(Ленін. Кастрычнік 1917 г.)*

Нам, маладому пакаленьню, цяпер нейк і ня верыцца, што нашы бацькі жылі яшчэ пад уладай цара і паноў. Мы ў той час былі яшчэ зусім малымі. Але і мы ўжо крыўдзіліся на тое, што ў школе нам вучыцца немагчыма: настаўнік б'ецца, поп кожны дзень лезе ў вочы з нейкім незразумелым сваім законам і г. д.

Мы слаба разьбіраліся ў тым, што як нашы бацькі, так і мы павінны цярпець з-за паноў і цара, бо гэткі, нецярпімы для бедных, парадак быў вельмі прыемным для багатых. У руках паноў і цара была сіла, войска, усе прыгоды жыцьця.

Але вось кастрычнікавая рэволюцыя 1917 г. дала адчуць і зразумець нават і нам, малышам, што рабочыя і сяляне цярпелі дрэннае жыцьцё толькі да часу. Раней пазбавіцца ад яго было нельга. Рабочыя і сяляне ня былі цесна злучаны паміж сабой, слаба організаваны. Партыя комуністаў была яшчэ параўнаўча слабай, каб здалець організаваць усіх працоўных вакол адзінай думкі—вызваленьня, шляхам рэволюцыі.

У кастрычніку 1917 г. організаванасьць рабочых і сялян ужо была настолькі вялікай, што перамагла свайго векавога ворага—паноў і цара.

Гэтак-жа сама толькі цяпер мы, школьнікі, даведаліся, што поп нам хлусіў, калі кожны дзень тлумачыў:

— Усё дадзена богам і ўсё ад бога.



Прычым-жа тут яго бог, калі справа так ясна: хто дужэйшы, той і пан і бог і ўсё, што толькі хочаш.

Дык вось-жа з кастрычніка 1917 г. дужэйшымі ад паноў і цара сталі рабочыя і сяляне. Гэта сталася простай і непарушнай ісьцінай. Але-ж ня так жылося ў нас да гэтага часу.

Мы з кніжак добра ведаем, што даўно некалі людзі жылі вольнымі. Тады ня было ні бедных ні багатых, а калі толькі зьявіліся багатыя (уладары паасобных плямён, дужэйшыя фізычна і разумнейшыя ад іншых), з гэтага часу пачынаецца уціск чалавека чалавекам. Багатыя прымушалі слабейшых, бедных, працаваць на сябе за маленькую мізэрную плату. У жыцьці людзей зьявілася крыўда і зьдзек. Адзін чалавек жыў раскошна і весела, а другі чуць пераводзіў дух у целе і скардзіўся на сваю горкую долю.

З цягам часу чалавецтва пачало разьвіваць сваю культуру і тэхніку. Але і гэта ўсё цалком ішло на карысьць багатых. Бедны чалавек, такім чынам, быў пазбаўлены ўсяго таго, што добрага мелі людзі. Нават у школу вучыцца і туды беднага ня пускалі, бо, калі ён навучыцца і пазнае, хто ён і што ён — гора будзе багатаму! У ніжэйшых школах, дзе ў большасьці вучыліся дзеці бедных, паны стараліся забіць галовы вучням сваім нікчэмным законам. Гэты закон якраз быў на варце інтарэсаў багатых.

Дык вось такім чынам людзі падзяляліся на два станы або клясы: кляса гультаёў (багатых) і кляса працоўных.

Гэтыя клясы, як толькі яны нарадзіліся, ніколі ня жылі ў згодзе. Між імі йдзе змаганьне за жыцьцё і панаваньне ў жыцьці заўсёды аднэй якой-небудзь клясы. Бедныя, рабочыя і сяляне, увесь час імкнуцца скінуць з плеч сваіх уціск паноў, каб самім быць уладарамі свайго жыцьця, каб працаваць толькі на саміх сябе, а багатыя, памешчыкі і капіталістыя, баяцца дапусьціцца да такога становішча, бо ім або прыдзецца памерці з голаду, або ўзяцца самім за працу. Апошняе для іх азначае таксама сьмерць.



* *
*

Барацьба між клясамі цягнулася доўга. У другіх старонках яна цягнецца і дагэтуль. А здаецца, што

тут і вадзіцца ня варта было-б: буржуяў — жменька, а рабочых і сялян — мільёны! Гэта то праўда. Ды вось бяда ўся ў тым, што рабочыя і сяляне неорганізаваны як сьлед. Ня ўсе яны ўцягнуты ў справу вызваленьня і ня ўсе ёй аддадзены. А ў той-жа час нельга было надрукаваць у газэце ці выступіць з прамовай і растлумачыць усім праўду. Калі хто-б дазволіў сабе так зрабіць, улада раптам-бы схапіла яго і кінула ў турму.

Гэтак яно й было. Шмат людзей загінула за справу вызваленьня.

Рэволюцыя ў нас, у быўшай царскай Расіі, адбылася таму, што жыць далей пад прыгнётам зусім нельга было. Гэта адчулі ўсе працоўныя. Працоўныя яскрава пачалі разумець, што яны знаходзяцца ў кайданах, якія ім адзелі багатыя і пачалі з усёй сілай рваць гэтыя кайданы, каб стаць вольнымі.

Першая рэволюцыя адбылася 22—27 лютага (стар. стылю) 1917 г.

Мне добра застаўся ў памяці той дзень, калі мы ў вёсцы пачулі аб тым, што цар адрокся ад улады пад націскам салдат, якія складаліся з рабочых і сялян.

Талкавалі тады аб гэтым парознаму. Адны — бедныя — радаваліся, што будзе перамена і настане лепшае жыцьцё, а другія — багатыя — сумавалі па цару.

Аб тым, што робіцца на сьвеце мы мала чаго ў вёсцы ведалі. Хоць пра „сацылістых" шмат хто чуў. Мне памятаецца, калі аднае ночы ў 1916 г. мы да відна з бацькам ня спалі, слухаючы свайго начлежніка-карабейніка, што апавядаў нам аб новым лепшым жыцьці. І такімі роднымі, блізкімі сэрцу здаваліся нам яго словы! Мой бацька, які ўвесь свой век марыў аб большым кавалку зямлі і для гэтай мэты зьбіраў па горкай капейцы грошы, ад радасьці тады заявіў:

— Вось, каб гэта ды на нашым сталася! Нашто-ж мне было-б цэлы век мучыцца, каб заставіць дзецям кавалак зямлі! Ды жыў-бы тады сам сабе панам!

Загэтым-жа мой бацька, помню, і абрадаваўся, калі пачуў, што цара скінулі і настане вольнае жыцьцё. У той дзень ён ужо збудаваў цэлы плян свайго далейшага жыцьця па апавяданьнях карабейніка.

А на сьвеце рабілася тады вось што. Вайна, якая 3 гады йшла паміж Расіяй і саюзнымі войскамі буржуазіі Заходняй Эўропы, ня думала канчацца.

За гэтыя тры гады было пакалечана і забіта мільёны людзей, спалена і зруйнавана тысячы вёсак і гарадоў, сапсута знарадамі шмат лепшай зямлі.

Рабочыя і сяляне клалі свае непавінныя ні ў чым галовы, галоднымі і халоднымі пад сьвістам куль і знарадаў валяліся па акопах у сырой зямлі. Фабрыканты і памешчыкі, якія ўзьнялі гэту вайну, нажываліся сабе ў гэты час за сьпінай бедных салдат.

Але ўсяму бывае свой канец. Прышоў канец і вялікаму гору працоўных.

Пачалося з Ленінграда (раней Пецярбурга). Рабочыя ня маючы чаго есьці і бачачы ўсе непарадкі цара і яго прыхільнікаў, вышлі са сьцягамі, дзе была вялікімі літарамі вызначана праўда:

„Далоў вайну"! „Хлеба"!

Небясьпека для цара была відочнай. Салдаты, якіх накіраваў цар супроць гэтага людзкога натоўпу, адмовіліся страляць. Яны зразумелі, што ня немец і ня турак якінебудзь іх вораг. Ворага свайго ўсе ўбачылі ў асобе цара і банды багатых.

Пецярбург праз пяць дзён атрымаў волю. Цар прымушаны быў уцячы.

Пасьля Пецярбурга ўзьнімаецца ўся вялічэзная быўшая Расія.

Спачатку ўладу захапіў „часовы ўрад", які складаўся з паноў. Гэты ўрад наабяцаў горы палёгак рабочым і сялянам і накрыўся, як кажуць, капытамі. Усё йшло, як і пры цары.

Тады рабочыя і сяляне організуюць сваю ўладу, на чале якой стаў Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, куды ўваходзілі і комуністы.

25 кастрычніка (7 лістапада па новаму стылю) рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам компартыі скідаюць апошніх дармаедаў-паноў з „Часовага ўраду" і назаўсёды ўтвараюць першую ў сьвеце Савецкую Ўладу. Абвяшчэньне Савецкай ўлады, улады рабочых і сялян, было зроблена вялікім правадыром сусьветнага пролетарыяту т. Леніным на зьездзе, які адбываўся ў той час.



Роўна 9 гадоў мінула з таго часу, як працоўныя цьвёрда трымаюць у сваіх руках сваю-ж уладу. Яны на працягу яшчэ некалькіх гадоў пасьля рэволюцыі шчыра і моцна баранілі яе ад розных гэнералаў, якія з ды-

мам і пажарам прыходзілі да нас, каб задушыць маладую савецкую дзяржаву.

Шмат яшчэ пагараваў ад іх народ. Ня хутка яшчэ загояцца раны нашай краіны, якія прынесла нам шалёная польская буржуазія...

* * *

Год за годам ідзе няспынная праца рабочых і сялян пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі над адбудаваньнем сваёй пролетарскай дзяржавы. З кожным годам усё новыя і новыя дасягненьні ў працы, а разам з гэтым паляпшаецца й жыцьцё.

Але работы яшчэ дужа шмат, каб ажыцьцявіць ўсё тое, што паставіла перад намі рэволюцыя і першы найвялікшы ў сьвеце рэволюцыянэр, правадыр пролетарыяту т. Ленін. Шмат, вельмі шмат гэтай працы застаецца ўнукам Ільліча—піонэрам. Вось чаму піонэрам трэба добра быць падрыхтаванымі да гэтай працы, трэба шмат і шмат вучыцца.

* * *

У сьвяткаваньні дню Кастрычнікавай рэволюцыі ў гэтым годзе наша піонэрская організацыя прыме самы чынны ўдзел. Піонэры далёка не абмяжуюцца толькі тым, што пройдуць разам з дарослымі па вуліцах, пасьпяваюць і—канец. Сьвята высоўвае перад намі шэраг практычных задач.

Нам патрэбна будзе праверыць сваю працу за мінулы час, гэта значыць, праверыць сябе, ці сапраўды мы дастойна нясем назву ленінцаў.

Поруч з гэтым піонэры павінны ўспомніць аб сваіх таварышах, якія яшчэ неабхоплены атрадам. Можа атрад зусім слаба працуе ў гэтым напрамку і як зьнішчыць гэты недахоп.

Вялікую ўвагу павінны зьвярнуць у гэты дзень піонэры гораду на вясковыя атрады. Трэба абдумаць пытаньне, як і чым атрад гарадзкі можа памагчы свайму падшэфнаму, як ён памагаў і якую працу праводзіў там дагэтуль.

Урэшце, піонэры не павінны забыцца ў гэты дзень і аб акцябратах-імяніньніках сьвята. Праца сярод акцябрат з боку піонэраў не заўсёды праводзіцца добра. Акцябратам трэба дапамагчы, каб і яны ў хуткім часе змаглі выхаваць з сябе добрых і дастойных ленінцаў.

Дзевятую гадавіну піонэры і ўсе дзеці павінны спаткаць жыва, весела. Кожны з нас павінен быць добра падрыхтаваным да выкананьня задач, якія ставіць перад намі гэта сьвята.

**Комсамолец Якім.**

# КАСТРЫЧНІК

Песьняй звонкай
Ў вачох неба сьнежнага
Усьміхнуўся кастрычнік-юнак.
Аб тых днёх,
Днёх паўстаньня мяцежнага,
Не забыцца ніколі нам.
Помню,
Помню ў палёх цёмна-зраненых
Не адзін праклінаў
Горкі лёс,
Калі ў сініх палёх,
Над курганамі
Завывалі гарматы да сьлёз.
Так было...
Завіруха нястрымная,
Рэкі буйнай крыві,
Мора сьлёз.

Віхрамёгных пажараў уздымы,
Але ўсё наш народ гэта зьнёс.
І цяпер
Над сівымі абшарамі
Паланее крывёю наш сьцяг,
Гэта кроў
Узьнялася пажарамі,
Гэта сымбаль вясны і жыцьця.
Не здарма-ж на грудзёх
Неба сьнежнага
Нашых песень агні
Запаліла вясна.
Аб тых днёх,
Днёх паўстаньня мяцежнага
Не забыцца ніколі нам.

**Валеры Маракоў.**



М. Нікановіч.

# ПАСТУШКІ.



Як да сваёй маткі маленькае дзіцятка—усё бліжэй ды бліжэй хіліцца залатое сонца да цёмна-сіняга маўклівага бору. Ціха ў полі, толькі каровы з авечкамі шаргацяць па іржэўніку зжатага ўжо жыта, скубучы рэдкую там траву ды яшчэ нейкая птушка, з недалёкага гаю, працягла і нудна стагнала. У прыродзе адчувалася павольнае заміраньне ходу жыцьцёвага імпэту, адчувалася жаўцізна халоднай сьмерці і, мусіць, аб гэтым стагнала птушка, аб гэтым-жа сьпяваў і вецер-раздольнік.

Усё гэта бачыў і адчуваў Адам, лежачы на трохі пажоўклай траве, на мяжы, і моʻ ад гэтага пачуцьця ці то ад адзіноцтва—пачаў слаба думаць, уяўляючы ў сваёй няпрывычнай для думак галаве цэлы рой перажываньняў і малюнкаў.

— К-у-у-у-ды-ы!.. ку-у-у-ды, рабая ваўкарэзіна, каб цябе расьцягалі, каб цябе!..—раптам, усхапіўшыся з мяжы, крыкнуў прарэзьліва Адам, убачыўшы як рабая карова падышла к бабкам і пачала трыбушыць сноп.

Ляснуў ён у паветры пугаю. Кінула карова сноп і, падняўшы ды адвярнуўшы галаву з заплюшчанымі вачыма у другі бок, як-бы чакаючы ўдару па ёй—трушком пабегла ў чараду. Нешта сам сабе гаворачы, падняў Адам сноп, трохі паправіў яго ды йзноў прыставіў пад шапку бабкі.

А пасьля, зірнуўшы ўдаль, дзе за малым хмызьняком гублялася вёска, адкуль ён і быў і зірнуўшы з пад далоні на заходзячае сонца і на кароў—нешта запеў і тагды-ж ізноў пачаў думаць.—„Сягоньня дык аж ня хочацца пасьвіць кароў і хто яго ведае чаму?!“.

Хацеў падабраць для сябе нешта такое, ад чаго ў яго гэтакая маркотнасьць і напружваючы свае думкі аніяк ня мог гэтага ўспомніць. Каровы памалу падыходзілі да бору. Прапаў вецер і толькі моцна пахла ў лёгкапразрыстым паветры шырынёй і сілай сасновага бору ды яшчэ сырымі паплавамі.

Засьвістаў нешта вясёлае Адам, пастукаў пугай аб цьвёрдыя наскі сваіх новых лапцей і зноў агледзіўся навокала сябе, як-бы каго шукаючы ці што згубіўшы, і толькі тагды выплыла ў яго з глыбіні душы ні то думка, ні то пачуцьцё:

— Гэта-ж і сягоньня Ядзя ня прыгнала нешта сваіх кароў ні на раніцу, ні на вечар... Хварэе ўсё, і ўжо не адзін дзень!..

І тут-жа цераз уяўленьне ўспомнілася яму як з самай раньняй вясны, толькі ледзь прасохла зямля і на балоце ды каля рэчкі і крынічышч выскачылі першыя чырвона-зялёныя драцінкі маладой травіцы—яны ўдваіх выгналі ўжо кароў на пашу. Яшчэ вельмі золка бывае ў такія раніцы і Адам, абягаючы невялічкія лужыны на паплавох, корчыцца і пробуе хаваць свой нос у вялікі каўнер сваёй шэрай сьвіткі і гэтым часам глядзіць адным заспаным вокам на Ядзю. Тая жмурыць свае яскрава-шэрыя, бяздонныя, як неба, вочы на першыя каслаўкі радаснага сонца, ірдзіцца ў твары гэтымі каслаўкамі сонца і ўся яна здаецца сатканая с гэтых цёпла-жы-

віцельных праменьняў, баравых ценяў і паху вясны... І здаецца Адаму, што дзесяцёхгадовая Ядзя ў дзіравай чорнай сьвітцы, з плеч яе гаспадара Максіма, у старых лазовых лапцях—не пастушок-найміт ад чатырох гаспадароў,—яна такая-ж зусім падобная да тых дзяўчат, у чырвоных гальштуках на шыі, якіх ён бачыў у адным садзе за горадам, калі туды аднаго разу езьдзіў з бацькам. І тыя гэтак-жа, як і Ядзя, былі прыгожыя, але колькі ён з воза не глядзеў на іх, бачыў як увесь час яны ўсё радасна-весела заліваліся рогатам. Старэйшыя, якія былі з імі (мусіць, настаўнікі, як потым дагадаўся Адам), былі гэтакія-ж вясёлыя слаўныя.. Зусім не такія, як Максім і іншыя гаспадары.

Адкідаў Адам у думках рызьзё начэпляное на Ядзю, і тагды яскрава ўяўляў перад сабою адну з тых радасных гарадзкіх дзяўчынак, і тагды яму на душы рабілася вельмі-ж радасна і лёгка... Хочацца яму нешта сказаць у такім разе і ніяк ня можа, толькі касурыцца на Ядзю адным вокам ды хвалюецца радасьцю... У той-жа час Ядзя, саскочыўшы з купіны, весела зірнула на Адама і пырснула слаўнай маладой песьняй:

„Зарадзілі чорны ягады ў бару,
Заблудзіла красна-дзевіца ў лясу,
Заблудзіла красна"...

Усьміхнуўся Адам і, адвярнуўшы галаву ў другі бок ад яе, шлёгнуў пугаю ў паветры так, як робіць ён, калі карова ды ўварвецца ў шкоду і пасьля, яшчэ не даслухаўшы песьню, ён парыўчата кінуў:

— Эх, Ядзя, каб гэта цябе ды туды... Інакшая ты была-б, вот далібож!..

— Куды гэта?.. — кончыўшы сьпяваць, спытала ў яго Ядзя.

— Ды ў горад... к тым дзяўчатам, якіх бачыў я ў садзе там...

І падумаўшы трохі над нечым вельмі сур'ёзным і важным, другім голасам ужо загаварыў:

— Я чуў, Ядзя, ці праўда гэта ці не, хто яго ведае?!. Мне казалі, гэта я падслухаў як гаварылі мужчыны, што тыя дзяўчата, якіх бачыў я, з чырвонымі гальштукамі, што...

— Вялікія яны?—перабіла яго Ядзя.

— Ды не!.. Такія вось, як ты, і меншыя ёсьць... Дык вось яны набраны туды ў сад з самых усё бедных... Сіроты дзе якія...

І даўшы волю свайму выабражэньню Адам пачаў расказваць Ядзі з усімі драбніцамі, як гэта ён іх бачыў тых дзяўчатак, якім і імя ніякага ня мог даць, як толькі „з чырвонымі гальштукамі". Гаварыў радуючыся, што яго гаворку хоць адзін чалавек слухае і разумее,—маляваў перад Ядзяй у самых ружовых фарбах піонэрак і іх жыцьцё.

Слухала ўсё гэта Ядзя моўчкі і задумаўшыся. І тагды, калі ўжо кінуў гаварыць Адам, бо не знаходзіў слоў для гаворкі, яна запытала:

— Ты-ж, Адам, ведаеш як мне жывецца?!. Мо' трохі лепш, як сабаку Максімаваму. А каб гэта мне туды папасьці?! Ты-ж кажаш, што туды прымаюць толькі бедных сірот...

Блізка падыйшла к Адаму Ядзя і пытліва глядзела яму ў твар сваімі вочкамі-незабудкамі. Памаўчаў Адам, як-бы ўдумна крытыкуючы яе словы-жаданьні і, гледзячы на балота, дзе качаліся над пажоўклаю травою з крыкам кнігаўкі, з уздыхам сказаў:

— Папасьці то туды дык можна... Але я вось ня ведаю... што грамата ў цябе вельмі слабая... Можа гэткіх і ня прымаюць туды? Тады-ж толькі першы раз у сваім жыцьці адчулі яны абое разам, як мала яны вучыліся.

Памалу йшлі яны к гаю тагды, калі каровы прайшоўшы яго, рассыпаліся ў беспарадку каля рэчкі ў топкіх берагох.

Тады-ж Ядзя, абураная ў душы сваім жыцьцёвым становішчам з нейкай крыўдай і жалем прамовіла:

— Дзе ты хацеў, каб яно добра і весела жылося, калі, вунь, яшчэ ў нашай школе іншыя дзеці дык вучацца, а нам няма калі... Нічога не сказаў на гэта Адам, толькі нешта паморшчыўся.

А потым яны выбралі вялікую сухую купіну і ўвесь дзень гаварылі ўсё аб адным, як гэта зрабіць, каб вучыцца больш і зьмяніць сваё цяжкае жыцьцё на вольнае, лепшае... З таго-ж дня паміж Ядзяй і Адамам завязалася моцная нямая згода, прывязанасьць такая, што адзін бяз другога ня мог жыць. Тады-ж і склалася ў іх паміж сабою пастанова:

— Дапамагаць адзін другому чым і як можна і гэту зіму вучыцца. а пасьля сьмялей будзе і да тых дзяцей пайсьці...

І з таго разу вельмі-ж часта, ды й пастаянна, Адам з Ядзяй пасьвілі свае каровы, дзелячы і радасьць, і гора папалам; яны вельмі прывыклі адзін да аднаго.

І вось ужо прайшло аж чатыры дні, як захварэла на нейкую хваробу Ядзя і не паднімаецца з запечка, у Максіма, каб на золак выгнаць скаціну на іржышча ці ў гай к чарадзе Адама. І цяпер лежачы сумуе бед-

ная па вольных прасторах лугоў скошаных, па мяккай шырыні поля зжатага, па гаю... І часта можна ўбачыць у яе хваравітых незабудкавых вачох ціхую журбу: гэта па сваім таварышу Адаму і па кнізе, якая асталася гэтым часам у Адама ды па якой так добра вучыліся яны разам з таго дня, як пастанавілі, штотрэба вучыцца хоць „сам праз сябе“...

Увайшлі каровы ў бор і Адам, прачнуўшыся ад думак, ляснуў у паветры пугаю, весела сьвіснуў і, пераскакваючы з нагі на нагу, пабег у бор. У гэты-ж час з сваім стадкам падганяўся бліжэй к дому і Васіль, суседні хлапец.

Убачыў яго Адам і, крыху пастаяўшы на адным мейсцы ды падумаўшы, павольна пайшоў на сустрач к Васілю. Той здалёку ўжо весела ўсьміхаўся:

— Ведаеш што, Васіль?!— адразу пачаў Адам, нават не прывітаўшыся з ім.

— Што?.. Мо‘ карова згубілася?!—з усьмешкай кінуў той.

— Ты, вот што, братка: папасі тут маіх трохі кароў, а я гэтым часам зьбегаю дамоў на адзін маленькі інтэрас... Я скоранька .. Мае каровы тут у канюховым беразе, далей не пайшлі, і ты туды свае пускай, тады разам пагонім дамоў!..



Прабавала сунуць па падлозе—нічога не памагло...

Скорагаворкай кідаў Адам і няўсьпеў Васіль і слова сказаць, як Адам пераскакваючы з нагі на нагу ўжо нёсься дамоў к Ядзі, прыціскаючы за пазухай кніжку, па якой разам яны вучыліся...

Маўчала поле, пахла сырым бульбянікам ды макраватай травой.

II.

Сягоньня ўся сям‘я Максімавых высыпала ў поле на працу. У хаце асталася адна хворая Ядзя. Ёй сягоньня ўжо трошкі лепш стала і гаспадыня, апошняй выходзячы з хаты, абярнулася з парогу да Ядзі:

— Ты-ж глядзі тут, каб усё ў парадку было... Калі трэба будзе даць сьвіньням, дык цеста стаіць у сенцах, а як прыдуць каровы, ты іх тут падоіш, падкінеш бульбяніку ім ці чаго там... Але-ж вучыць ня трэба цябе— сама павінна ведаць як і што! .—ляпнуўшы клямкаю, пайшла цераз агароды за гумны.

Нешта хацела сказаць на гэта Ядзя, але пакуль сабралася, дык гаспадыні і сьлед прастыў. Ізноў крыўдна і сумна стала, калі яна прыраўнівала сваё жыцьцё да жыцьця суседняй дзяўчынкі—равесьніцы, Аленкі— якую маці так песьціць і кахае, што не дазваляе і за халодную ваду ўзяцца. Там пяшчоты ўжо і залішнія, а тут—круглая сірата, якая ня помніць зусім маткі і ніколі ў сваім жыцьці не адчула пяшчот і ласкі мацеры. Бацьку помніць, як праз сон: выпіваў вельмі-ж і заўсёды п‘яным хадзіў, ніколі не зварачваўся да Ядзі ні з любасьцю, ні са злосьцю. Толькі нешта адзін раз, доўга седзячы ў сваёй хаце на лаве, падазваў яе к сабе і, узяўшы на рукі, прыхінуў да свайго моцна сьмярдзючага табакай і гарэлкай твару, паказытаў яе твар сваёй жорсткай барадой і вусамі, і ціха, неяк захліпаючыся ад сьлёз, выціснуў.

— Ядзячка, дачушка мая родная!.. Адным словам—сірата ты бяспрытульная... Насьмяюцца яшчэ даволі над табою...

Невядома чаму—заплакала моцна Ядзя, прыхінулася да яго чорнай суровай сарочкі і пад калыханку так і заснула яна... А назаўтра вечарам у пуні зьнялі яе бацьку з бэлькі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ужо далёка зьвярнула з паўдня, калі Ядзя ледзь устаўшы з запечку нацягнула на сябе свой заўсягдашні рызьняк і пашла даваць

сьвіньням, бо тыя добра выгаладаліся і скіголілі на „чым сьвет стаіць“. Увіхалася каля ражак яна і, калі ўжо ўсё было гатова і толькі заставалася гэта цеста разьнесьці—як не паднімала яна ражку, аніяк не магла здужаць. Толькі ад таго, што гнулася ды ад натугі ў вачох рабіліся чорна-зялёныя кругі ды сыпалася аднекуль зьверху машкара. Ядзя старалася толькі трымацца за вушкі ражкі, каб хаця самой не паваліцца... Прабавала сунуць па падлозе—нічога не памагло, і, кінуўшы ўжо гэтую работу, яна вышла на двор к упору слабага васеньняга сонца і ціха заплакала...

Невядома колькі яна прасядзела ў такім становішчы, толькі яе раптам абудзілі чыесь няпэўныя крокі. Яна падняла галаву і, ўбачыўшы Адама, які ціха з апаскаю да яе падкрадаўся — ні то зжахнулася, ні то ўзрадавалася.

Сеў каля яе, на бервяне, Адам і адразу нічога ня мог сказаць. Нейк дзіўна: вылецела ў яго з памяці ўсё тое, што думаў ён ёй перадаць за гэтыя чатыры дні яе адсутнасьці... Маўчаў патупіўшыся, маўчала і Ядзя. Толькі нарэшце Адам адважыўся:

— Хто гэта твае каровы заняў?..

— Ды Васіль!..

— Мусіць, ты хворая была, што так доўга не ганяла ў поле?.

— Ага!.. Застудзілася, мусіць...—і памаўчаўшы:—А ведаеш што, Адам, памажы ты мне ражкі цеста сьвіньням павыносіць у доражань.

— Давай!—з нейкім гонарам і як дарослы, пацягнуўшыся, устаў Адам, гатовы хоць цяпер несьці тыя ражкі.

І выліваючы цеста па карытам, ён ужо неяк сьмялей расказваў ёй, як было ў полі без яе, як адзін ён ужо шмат прачытаў кнігі.

— Ну, а як буду я?..

— Дык я яе табе астаўлю пакуль што. Старайся ўжо сама гнаць у поле... Неяк нудна без цябе...

Перабіраючы кутасы свайго пояса, скоранька гаварыў Адам, стараючыся не глядзець на Ядзю.

— А грыбоў ёсьць шмат?! Мо‘ ужо пабралі ўсе і мне не астанецца ніводнага?—сьмяючыся пытала ў яго Ядзя.

— Ды вот пасьля дожджыка іх уродзіць шмат... У Чорным бары, казалі мне, хоць заваліся імі!.. Ты, мусіць, вельмі іх любіш?..

— Ну й не кажы!..

Доўга гаварылі яны аб усім патроху, пакуль сонца ня спусьцілася к бору, і толькі тагды, як убачыў Адам, што пазнавата ўжо, устаў і, аддаючы кніжку ёй, з радасьцю нутраной, з задавальненьнем кінуў:

— Ня соладка нам жывецца з табою, Ядзя. Хутчэй-бы ў школу ды за навуку... А тагды... іначай будзе!..

### III.

Лажылася сонца на мяккую сіня-бараваую падушку, калі Адам, вышаўшы ад Ядзі і пайшоўшы адразу ў Чорны бор па грыбы для яе, ужо назьбіраў іх поўны кошык і вярнуўся к Васілю.

— А я думаў, чорт ведае куды цябе занесла?.!. Як пайшоў, дык як скрозь зямлю праваліўся!.. Ого-го!.. Дык ты яшчэ й грыбоў назьбіраў!? Калі табе гэта собіла?!.

— От і собіла!.. Быў дома і ў грыбы пасьпеў зьбегаць!.. Вот пагодзіць стала, дык, брат, грыбоў—колькі не хачу!..

— Ставячы на мяжу кошык з грыбамі і гледзячы то на край сонца, то на кароў, якія спакойна пасьвіліся ўжо на іржэўніку, гаварыў Адам:

— Скора гэта мы ў школу пойдзем?..

— Пойдзем яшчэ!.. Хопіць гэтай школы, аж апрацівее яна табе!..—нудна абазваўся Васіль, пакрыўдзіўшы да болю гэтым Адама.

Гэтым-жа вечарам Адам, ціха крадучыся каля платоў па вуліцы, убачыў на чырвоных дзьвярах школы прыклееную белую паперку і, ахоплены зацікаўленасьцю, прачытаў, што на гэтым тыдні ўжо будзе рабіцца прыём вучняў у школу. Радасны ад гэтай навіны прыбег к Ядзі. Забыўшыся аб грыбох, ён з жарам расказаў ёй, як ледзь не пасварыўся ён з Васілём з-за школы.

— Гэта-ж ужо, Ядзячка, на гэтым тыдні з суботы будуць прымаць у школу!.. От яно добра калі будзе!.. Хутчэй-жа ты хаця папраўляйся!.. А вот і грыбоў табе назьбіраў я...

— Ото-ж маладзец!..—саромячыся ціха сказала Ядзя і весела ўсьміхнулася.

Цяжка нечага соп на палатках стары Максім, маўчала яго сям‘я, а ў душы Адама і Ядзі цьвіла пышная радасьць.



# Вянок

Сумны сёньня наш завулак,
Ня зьвініць, крылаты!
Дом дзіцячы—наш прытулак—
Скрыўджаны утратай...

* * *

Бяспрытульная дзяўчынка
Згінула, змарнела;
Хлеба чорнага скарынку
Тыднямі ня мела.

Што-ж рабіць? Каму схіліцца?
Дзе знайсьці збавеньне?
Сохне твар, як жоўталісьце,
Сохне ў сутарэньні.

На работу дзе наняцца,
Дый гадкоў-жа восем:
Хто там дасьць якую працу,
Дый каго папросіш?

Цяжка, цяжка і сьцюдзёна
І няма прыпынку:
Ні матулі, ні знаёмых—
Бедная дзяўчынка.

Горка ў лютым, ветры выюць,
Асушаюць сьлёзы.
Сэрца плача, грудзі ныюць,
Страх нясуць марозы.

Як заўсёды, ой бадай іх,
Дні бядой ляцелі
І, як баецца у байцы,
Сірату сустрэлі.



У прытулак наш забралі,
Весялей ёй стала.
Але вуліца бяз жалю
Сілу надарвала...

Шанавалі, даглядалі
Любаю сястрыцу.
Ў вечар песьні ёй сьпявалі,
Толькі-б ня журыцца!

Толькі вось, каб сум закінуць
І ня ўспомніць гора,
Зьвіць дзяўчынцы-сірацінцы
Радасьць з ясных зорак!

Але сёньня, цёмнай ноччу,
Сэрца замаўчала
І жыцьцё, як той лісточак,
З дрэва адарвала.

Над пагорбленай царквою
Завывае вецер.
Апавітае імглою
Зашумела вецьце...

* * *

Сумна дзеці над курганам
Ставяць дамавіну.
Сэрца жудасьцю нязнанай
Рвецца ў сьвет—даліну.

А наўкол крыжы, магілы,
Помнікі, капліцы...
Ой, шкада дзяўчынкі мілай,
Ой, шкада сястрыцы.

Нясьціхае шум зялёны,
Жаласьлівы, хмурны.
Ў гэтым шуме засмучоным,
Быццам звон хаўтурны.

Захісталіся бярозы,
Як сіроты плачуць...
Нібы сьвечы пры дарозе,
Сьвечы, няіначай.

Разьвітаньнем дзеці-дружкі
Боль ў вянок зьвівалі,—
Напісалі на істужцы:
— Сірацінцы, Галі.

**Андрэй Александровіч.**



## I

Саммі часта прыраўніваў свайго Саіба да бульдога [1]). Адтрымоўвалася вельмі ўдалае падабенства. У Саіба былі вялікія шчокі, маленькія круглыя вочкі, у бульдога таксама. Саіб быў злосны, як сабака, а бульдог... як бульдог. Саіб біў, калі быў злосны, Саммі стэкам, а бульдог кусаў яго, Саммі, за голыя пяткі. Розьніца невялікая: ад стэка баліць сьпіна, ад зубоў бульдога—пяткі.

Зразумела, Саіб падобны на свайго бульдога. У гэтым у Саммі ня было ніякага сумненьня. У Саіба заўсёды балеў жывот. Ён зьвярнуўся да дактароў і дактары сказалі яму рабіць ванны і масаж [2]). Саіб вялікі, вельмі вялікі абжора. За абедам Саіб зьядае цэлага фазана [3]), выпівае вялізарную бутэльку эля.

Кожную раніцу Саммі даводзілася рабіць Саібу массаж. Гэта для Саммі было вельмі цяжка. У гэты час Саммі пацеў і моцна дыхаў. І нічога дзіўнага!—у Саіба быў вялікі валасаты жывот.

Бедны Саммі, ён пацеў, ён задыхаўся, а яго Саіб падобны да бульдога фыркаў, як бульдог.

## II

Бедны, бедны Саммі. Як цяжка жыць маленькім індусам пад блакітным небам сваёй і, у той-жа час чужой, бацькаўшчыны!

Раніцу, дзень і ноч Саммі за працай. Куды трэба зьбегаць—Саммі, трэба падаць Саібу эль—Саммі, трэба прыбраць памяшканьне—Саммі.

Саммі з пер'ямі з райскай птушкі адганяе ад Саіба і яго жонкі камароў і за ўсё гэта Саммі б'юць стэкам [4]), Саммі кусае бульдог. Саммі патрэбна было скаліць зубы, сьмяцца, бо Саіб ня любіў, калі Саммі сумаваў.

[1]) Бульдог—назва сабакі.
[2]) Націраньне.
[3]) Птушка
[4]) Палка.

Калі Саіб канчаў свае справы ў габінэце—ён ішоў і клаўся на дыван, які стаяў пад навесам. Да яго прыходзіла жонка. Саіб з сваёй жонкай пілі віно, а ля іх стаяў бедны Саммі. Ён матаў над імі пер'ямі райскай птушкі, Саіб злаваў на нешта і біў Саммі стэкам па твары.

## III.

Пасьля цяжкай дзённай працы Саммі йшоў разьбітым і панурым адпачываць у свой маленькі пакойчык. І вось тут ён многа думаў аб тым, чаму так бязьлітасна зьдзекуецца над ім яго Саіб, чаму ён, гэткі маленькі, павінен зносіць усе крыўды цяжкага падняволнага жыцьця. Ён думаў і разам з думкамі паўставалі сьветлыя, заклікаючыя да лепшага, мары. І гэтыя мары падказвалі яму, што недзе далёка ад блакітных нябёс яго айчыны ёсьць шчасьлівая і вольная краіна, дзе людзі жывуць аднымі імкненьнямі, аднымі пачуцьцямі, радасьцямі, адным жыцьцём. Так праходзілі ночы Саммі, але сёньня было іначай. У двары Саіба здарыўся нейкі перапалох, нехта прабег, скінулася з гучным звонам драбіна. Саіб усхапіўся. Бульдога ня было. Ён кінуўся да Саммі, пачаў зваць яго, а Саммі сьніўся ў гэты час вельмі прыемны сон. Ён сьніў, што бег ад Саіба, а яго заклікала да сябе шчасьлівая краіна. Але ён губляў сілы і Саіб бег за ім усё бліжэй і бліжэй. Раптам Саммі адчуў моцную, пякучую боль на сваім твары. Ён усхапіўся, расплюшчыў вочы. Усе мары, усе прыгожыя і радасныя малюнкі, навеяныя сном, адляцелі ў нябыт. Перад ім стаяў злосны Саіб і пагражаў забіць Саммі за тое, што ён ня слухаецца свайго гаспадара. Саммі пачаў адгаварвацца, але адказам на гэта быў удар стэкам па твары. Саммі ня стрымаўся і пракляў Саіба. У гэты час у хату прыбег бульдог. Гэта ён нарабіў гвалту на двары. Саіб заскаваў буль-

дога на Саммі і бульдог вострымі зубамі ўпіўся ў жывое цела хлапца. Саммі задыхаўся ад болю і ад злосьці. Саіб, лаючы ўвесь сьвет, выйшаў, а Саммі разьбіты і

каньня Саіба. Сам Саіб яшчэ ляжаў на ложку, соладка пацягваўся і пазяхаў. Сьпяшацца яму не патрэбна было. Яго Саммі быў ціхі і заўсёды слухаўся Саіба, яго яшчэ можна было многа, многа разоў біць стэкам. Але Саіб памыляўся. Саммі зусім не хацеў яго слухацца. І ён слухаўся толькі затым, каб паказаць, што ён гэткі ціхі і пакорны. Яму надаелі балючыя ўдары стэка, гострыя зубы бульдога. Ціхай прыемнай усьмешкай яго заклікалі да сябе Джунглі. І ён усьміхаўся ім праз люстраныя вокны, як быццам хочучы сказаць:

— Я прыду да вас, хутка прыду!

І ён думаў, што трэба забіць Саіба, а тады—ідзі куды толькі хочаш!

Раптам Саіб крыкнуў:

— Саммі!

— Эх, праклятаму Саібу трэба рабіць масаж! Ну, дык хай-жа ён ведае, хто такі Саммі! Даволі ён сьмяяўся з мяне, даволі біў мяне сваім стэкам!

Саммі рабіў Саібу масаж, а Саіб падобны да бульдога фыркаў і біў Саммі кулакамі. С а м м і больш стрымаць гэтага ня мог...

... Усьміхнуўся на сонцы востры нож і



... Ен матаў над імі пер'ямі райскай птушкі...

скусаны, забыўся ў нейкім салодкім забыцьці помсты.

IV

Залаціўся усход. Сонца пунсовымі праменьнямі аблівала люстраныя вокны памяш-

тлустае цела Саіба распластаілася на ложку.

Ня было больш стэка, ня было зубоў бульдога, а быў шырокі прастор палёў.

**В. П.**




# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Дэлегацыя Галяндзкай рабочай моладзі—піонэрам Беларусі.

Ад імя піонэраў Галяндыі маем гонар перадаць шчырае прывітаньне піонэрам Беларусі.

Піонэры Галяндыі жывуць у капіталістычнай краіне. З гэтай прычыны асноўнай задачай нашых піонэраў зьяўляецца задача па выхаваньню дзяцей рабочых і сялян. Піонэры імкнуцца дапамагчы ўсім дзецям у іх працы і жыцьці.



Зьлева на права: А. Шпільман, Д. Хаўлозен, М. Г, Лейнгерб.

Мы павінны клапаціцца, каб і нашы галяндзкія дзеці былі таксама, як і вы, свабоднымі, шчасьлівымі, каб дзеці працоўных карысталіся дармовай школай.

Піонэры Галяндыі пакуль што складаюць невялічкую організацыю, але гэта організацыя зусім моцная і жыцьцёвая. Яна ў кожны момант гатова дапамагаць старэйшым сваім братом і бацькам змагацца супроць існуючага буржуазнага ладу жыцьця.

Піонэры Беларусі спаткалі нас вельмі прыхільна і радасна. У васобе іх мы бачылі сваіх малодшых таварышоў.

Мы раскажам нашым галяндзкім таварышом аб усім, што тут у вас бачылі і перажылі, усе дасягненьні Савецкага Саюзу. Мы будзем дабівацца і змагацца за тое, каб і ў нас было налаждана жыцьцё так, як у Савецкім Саюзе.

Мы цьвёрда верым, што хутка настане дзень вызваленьня працоўных Галяндзыі, якія разам у цесным саюзе пойдуць з працоўнымі Савецкіх краін да комунізму.

Сябры дэлегацыі: **Д. Хаўлозен.**
**М. Г. Лейнгерб.**
**А. Шпільман.**

(Ліст перадаYou аны атраду пры Наркомасьветы БССР).

## Няма дысцыпліны.

*(Атрад м. Багушэвічы).*

Як ідзе праца ў атрадзе, відаць з таго, што па справаздачах атрада бюро ячэйкі ЛКСМБ признала працу нездавальняючай. Але ня гледзячы на гэта можна сказаць, што першае зьвяно працуе добра, што тычыцца другіх зьвеньняў, дык там нават піонэры ня прыходзяць на зборы. Асабліва кепска і шкодна, што ў атрадзе няма аніякай дыстыпліны. Піонэры што хочуць, тое й робяць. На дыстыпліну трэба зьвярнуць вялікую ўвагу, бо іначай піонэры нашага атраду ня выканаюць задач, якія пастаўлены перад дзіцячай організацыяй.

**У. Сянькоўскі.**

## Карысная гульня.

*(м. Зембін, 89 атрад).*

У дзень Міжнароднага Дзіцячага Тыдню нашымі атрадамі была праведзена гульня „Борьба за Перекоп". Гэтай гульнёй мы ахапілі ўсю неорганізаваную дзетвару. Гульня прайшла весела і радасна. Жадаем праводзіць і другім атрадам гэткія гульні.

**С. Федаровіч.**



## Мы ідзем.

Грамадою міліённай
Мы пад вольны сьцяг ідзем,
Да комуны шлях чырвоны
Мы ўсё дальш і дальш кладзем.

Мы узьнімем сьцяг чырвоны
Грамадою міліёнаў.

Мы свае заветы помнім,
Каб комуну будаваць.
Дружна мы ідзем наперад
Ї нястрымна наша раць.

Мы узьнімем сьцяг чырвоны
Грамадою міліёнаў.

Хай бушуюць ветры ў сьвеце,
Мы наперад ўсё ідзем.
Мы, людзей працоўных дзеці,
Да комуны шлях кладзем.

Мы узьнімем сьцяг чырвоны
Грамадою міліёнаў.

**Алесь Розна.**

# Гарадзкія піонэры—на дапамогу вясковым!

Амаль кожны гарадзкі атрад праз установу ці ячэйку, да якой ён прымацаваны, зьвязаны з якой-небудзь вёскай або сельсаветам. У большасьці выпадкаў гэта сувязь існуе толькі на паперы. Чаму?—*Дзякуючы незацікаўленасьці самых піонэраў шэфскай працай.*

У нашых умовах шэфства гарадзкіх атрадаў над вясковымі набывае асабліва важнае значэньне.

Уявім сабе становішча вясковага атраду ў якім небудзь глухім кутку, далёка ад гораду, бяз шэфа, а, значыць, і бяз гальштукаў, бяз літаратуры і іншых неабходных рэчаў. Ці лёгка яму працаваць?

Гарадзкія атрады, якія дагэтуль шэфскай працы не вялі, павінны цяпер-жа падумаць аб тым, што яны *могуць зрабіць для дзяцей і піонэраў сваёй падшэфнай вёскі.* Трэба правесьці выезд у вёску, азнаёміцца з становішчам вясковых дзяцей і пасьля гэтага скласьці плян шэфскай працы.

У той весцы, дзе піонэрскага атраду яшчэ няма, мы павінны весьці працу з дзяцьмі ня піонэрамі. У часе выездаў праводзіць гульні, дзіцячыя спэктаклі, гутаркі аб піонэрах.

Зацікавіўшы такім чынам дзяцей піонэрскай працай, выклікаўшы ў іх жаданьне стаць піонэрамі можна будзе прыступіць да арганізацыі атраду, загадзя ўзгадніўшы пытаньне з мясцовай комсамольскай ячэйкай і райбюро.

Дапамога вясковаму атраду не павінна выяўляцца ў сухой крытыцы і „дырэктывах". Бывалі выпадкі калі гарадзкія піонэры прыязджаючы ў вёску высока сябе трымалі і стаялі ў баку ад вясковых дзяцей. Ад такога „шэфства" мы павінны пазбавіцца.

*Уся праца па шэфству праводзіцца пасьля ўзгадненьня яе з комсамольскай ячэйкай і пад кіраўніцтвам ячэйкі.* Трэба памятаць, што наступаючы зімовы пэрыод зьяўляецца лепшым часам дзеля шэфпрацы.

**Зэльцар.**



Паедзем, сынку!




Ен ужо крыўдзіцца, што аб акцебратах нічога няма ў часопісі. Піонэры, шлеце матар'ял і аб іх жыцьці і працы.

# Што рабіць з перарасткамі.

Па досыць важнаму пытаньню выказваецца „Піонэр" у сваім артыкуле: „Што рабіць з перарасткамі" у восьмым нумары. Ён прапануе для піонэраў—перарасткаў, якія, больш-менш падыходзяць да комсамолу „організаваць гутрок з мэтай вывучэньня імі уставу і програмы ЛКСМ і яго гісторыі"—і больш нічога. Мне здаецца, што тав. „Піонэр" зусім кепска высьвятліў гэтае пытаньне, падышоўшы да яго толькі з аднаго боку, як кажуць. На мой погляд неабходна ў атрадзе організаваць асобны гурток, асобную „групу піонэраў-перарасткаў"; яе можна так і назваць. Мне здаецца, што ў працу гэтае групы неабходна ўнесьці наступнае:

1. Перш за ўсё для кіраўніцтва гэтае групы ячэйка ЛКСМ павінна вылучыць асобнага ад павадыра сябра, які-б належна быў падрыхтаваны да працы з старэйшай групай.

2. Галоўная ўвага гуртка павінна быць зьвернута на выхаваўчую працу, бо іх, перарасткаў, патрэбна ў большасьці перадаваць пасьля ў Комсамол.

3. Неабходна даваць заданьні піонэрам - перарасткам: праводзіць кіраўнічую працу ў зьвяне, даручаць праводзіць гутаркі на сходзе атраду, уцягваць у працу насьценнай газэты і інш.

4. Акрамя вывучэньня статуту і програма ЛКСМ і яго гісторыі, неабходна ўнесьці сюды пытаньні, хоць-бы й міжнароднага абхвату (вядома, што занадта ўдавацца ў гэты бок ня варта). Разам з гэтым неабходна ўнесьці і больш вясёлыя моманты ў працу, як напр.: вывучэньне і сьпяваньне комсамольскіх песьняў, частушак, і штат іншых, якія-б цікавілі іх, бо „сухія" пытаньні часта прыядаюцца, адаб'юць ахвоту да працы.

**М. Вярнікоўскі.**

# Значок дапамогі.

*(Малюнак з жыцьця дзіцячага сада).*

— Учора я была ў горадзе, там зьбіралі грошы. Я ўкінула капейку ў скрыначку, а мне далі вось гэты значок, - пачала адказваць цётка настаўніца дзецям, якія спыталіся ў яе, што гэта яна носіць на грудзёх?

— Дзеці, а ці ведаеце вы на што ўчора зьбіралі грошы?

Дзеці пераглянуліся,—ня ведаюць маўчаць.

— Ну, дык я вам раскажу, а вы слухайце уважліва.

— Добра, добра, цётка настаўніца!—закрычалі дзеці.

— Далёка ад нас, — гаварыла настаўніца,— так далёка, што трэба некалькі дзён ехаць на цягніку па зямлі, а потым на параходзе па моры—ёсьць старонка Ангельшчына.

Ну, і вось, у гэтай старонцы, як і ў іншых, вялікімі пластамі, глыбока пад зямлёй ляжыць многа каменнага вугалю.

— Я ведаю,—перапыняе Стась,—гэта такі бліскучы, чорны, цьвёрды. У нас печы ім паляць.

— Так, так... Дык вось і зямля, і каменны вугаль належыць панам, яны наймаюць рабочых, каб тыя здабывалі вугаль, які паны прадаюць па дарагой цане для насельніцтва.

— А як рабочыя туды лезуць, каб здабыць вугаль? —пытаецца Юрка.

— Там зроблены глыбокія ямы, шмат глыбейшыя за нашы студні; на знарочыстых пад'ёмных машынах рабочыя спускаюцца глыбока ў зямлю. Пасьля па вузкіх праходах-калідорах разыходзяцца ва ўсе бакі. Там, у калідорах, зусім цёмна, для гэтага ў кожнага пры поясе маецца лямпачка.

Рабочы кіркай-сякеркай павінен з сьцен свайго вузкага праходу выбіваць вугаль. А ў калідорах тых цесна, духотна, паветра даходзіць туды слаба, дыхаць няма чым.

Там, у капальнях, часта бываюць няшчасныя выпадкі. Аднаго разу ў капальнях рабочыя пачулі нейкі ўдушлівы запах. Паслалі да гаспадара сказаць, што тут нешта ня добрае, ня можна далей працаваць (рабочыя ведалі, што часта бываюць узрывы ў капальнях). Але гаспадар, такі тоўсты пан, седзячы сабе ў мяккім крэсьле кажа: „Працуйце, працуйце, няма чаго гультаіць".

Пашлі рабочыя далей выбіваць з сьцен і з столі вугаль. Толькі адзін з іх стукнуў кіркай, як пачуў моцны гук... Вялікія глыбы цьвёрдага каменьня з грукатам пачалі валіцца на галавы рабочых і прыдушылі іх.

Пачуліся стогны і крыкі: „ратуйце".

Праз некаторы час прышла другая зьмена рабочых, каб зьмяніць гэтых, але яны ўбачылі, што адбыўся ўзрыў і людзі ўжо паміраюць пад глыбамі каменьня. Пачалі адкапваць іх і выносіць на верх. Усе, апрача аднаго, былі забітыя. На версе стаялі іх жонкі і дзеці і плакалі. Там-жа, на версе, стаяў вялікі, тоўсты пан. Калі ля яго праносілі рабочых, то адзін, што застаўся жывым, сьціснуўшы кулак, сказаў: „Ты ведаў, што ў гэтым праходзе будзе ўзрыў, але грошы табе даражэй, як жыцьцё рабочых". Але пан не зьвярнуў на яго ніякай увагі, бо ў гэты момант ён быў заняты думкай аб тым, як весялей сёньня баль наладзіць для сваіх сяброў, так іх самых паноў, як і ён.

У тую пару, калі забітыя вуглякопы ляжалі ў сваіх хатах, а іх жонкі і дзеці горка плакалі, гаспадар шахтаў весела гутарыў і сьмяяўся. На сябе і сваіх гасьцей таўсты пан трапіў шмат грошы, якія бярэ за вугаль, што здабываюць рабочыя. І каб мець больш грошай, пан прымушае рабочых шмат працаваць, а рабочым за працу мала плаціць. Рабочыя шмат разоў казалі сваім гаспадарам, што яны так жыць ня могуць, што трэба каб ім больш плацілі—ды ўсё дарэмна.

Дык вось рабочыя сабраліся і сказалі так: „Праца наша вельмі цяжкая і небясьпечная, за гэта нам плацяць мала грошы, хоць вырабляем мы і многа, гаспадар рэшту сабе забірае. Давайце ўсе разам ня пойдзем на працу. Тады пакліча нас гаспадар сам працаваць і больш грошы плаціць будзе,— давайце зробім забастоўку!".

Так рабочыя часта рабілі. І вось цяпер у Ангельшчыне забаставалі ўсе гарнякі, усе яны ня йдуць на працу, сядзяць у хаце. Дзеці іх просяць хлеба, але каб яны раней пайшлі працаваць, чым іх паклічуць, то імбы йзноў мала далі грошы. Трэба ім дапамагчы, каб дзеці іх ня былі галодныя і не прасілі бацькоў ісьці працаваць.

Дык вось, усе нашы рабочыя зьбіраюць грошы і пасылаюць ангельскім гарнякам. Учора ў горадзе для іх і зьбіралі.

— І мы зьбярэм! - крыкнулі дзеці.

— Давайце зьбярэм!

**А. С.**

# ПРАЦА ПІОНЭРА Ў СЯМ'І.

На першы погляд здаецца, што ў сям'і дык зусім і рабіць няма чаго піонэру. Бязумоўна, гэта апрача неабходнай работы па гаспадарцы. Часта нашы піонэры заўважаюць:

— Добра. Каровы я пасу, на полі ў вольную хвіліну гэтак сама памагаю. А



Ён можа пакарміць сьвіней...

ўзімку—вучоба. Даволі. Што-ж больш яшчэ рабіць?

Аднак-жа гэтага зусім не даволі, калі прыняць пад увагу тое, што піонэр павінен рабіць у сям'і. Мала таго, каб пасьвіць кароў і лічыць, што з цябе даволі. Кароў пасе і меншы або большы брат піонэра. А працы ў сям'і багата знойдзеш для піонэра. Возьмем для прыкладу самую простую: дапамога матцы. Матка, яшчэ калі яна адзіная работніца у сям'і, ня можа расправіцца з усёй працай па дагляду гаспадаркі і сям'і.

Пачынаецца раніцца: матка павінна быць і ля печы, і ў агародзе, і ў хляве, і яшчэ, і яшчэ...

Дык вось-жа піонэр і павінен дапамагчы матцы ў гэтым. Ён можа пакарміць сьвіней, дапаможа начысьціць бульбы, вымые пасьляяды міскі і лыжкі. Усё трэба рабіць з ахвотай і зацікаўленасьцю, каб матка бачыла, што ты робіш не па жорсткаму яе загаду, а па ахвоце, па жаданьню дапамагчы ёй. Бязумоўна, шмат хто з піонэраў можа заявіць:

— Для мяне і так шмат працы у атрадзе. Законы і звычаі свае трэба выконваць. Так то так. Але-ж у гэтай працы і выяўляюцца звычаі піонэраў. Бо калі піонэр будзе дапамагаць матцы—гэтым ён і будзе выконваць свой закон. Чым матка будзе мець больш вольнага часу, тым лягчэй будзе ёй адлучыцца да грамадзкай працы: сход, дэлегацкія конфэрэнцыі, сходы атраду і інш. А гэтае самае дапаможа матцы наогул наблізіцца да грамадзкай працы (схадзіць на вечар, спэктакль).

Як бачыце і работа знойдзецца і карысьць ад яе.

Ды гэта-ж ня ўсё. А чаму-б піонэру не падумаць аб культурнай рабоце ў сям'і Хто-ж, як ня ён, або яго брат, комсамолец, паклапоціцца над тым, каб зрабіць па маг-



Чаму-б не ачысьціць хату ад рознай непатрэбнай жывёлы.

чымасьці культурнейшым жыцьцё сям'і. Нічога цяжкага і тут няма для піонэра. Трэба толькі мець жаданьне і ўменьне добра паставіць справу.

Наша вясковая хата яшчэ і да гэтага часу ня вылезла з гразі: парасяты ў хаце, куры, плююць на дол, пыл і г. д. Гэтак-жа сама і за хатай, на дварэ. Чаго там ня знойдзеш: хлам, як кажуць, ад пачатку сьвету валяецца тут. А ўсё таму, што гаспадар не надае гэтаму ніякага значэньня і абыяка адносіцца да акуратнасьці.

Тут працаваць прыходзіцца на кожным кроку. Дзе што мага—зрабі сам, дзе ня здолееш пастарайся заахвоціць да гэтай працы бацьку ці старэйшага брата, яны дапамогуць. Калі піонэр зможа зрабіць хоць што небудзь у гэтых адносінах—ён прынясе гэтым вялікую карысьць для сям'і. Тут-жа ня лішнім будзе спыніцца і на такой працы, як чытаньне газэты для старэйшых, або цікавай кніжкі. Скажам, узімку, на вячорках, дзе зьбіраецца моладзь-дзяўчаты. Часта можна скарыстаць вольны іх час іменна для чытаньня. Таксама варта весьці агітацыю і за організацыю падпіскі на газэту, часопісь, скарыстоўваючы такога рода чытаньні. Ды шмат чаго такога можна знайсьці, аб чым мы нават лічым лішнім упамінаць, як, напрыклад: барацьба з курэньнем у хаце, дзе знаходзіцца адзін курашчы, а ўсе іншыя сябры сям'і ня кураць. Або возьмем хоць бы такі хатні хлам, як клапы, прусакі... Нашто іх карміць, дармаедаў? У гэтым, бязумоўна, згодзяцца з піонэрам усе, падтрымаюць яго.



Чытаць часопісь—абавязак піонэра.

Яшчэ варта падумаць і над п'янствам у сям'і. Асабліва трэба старацца адцягнуць ад гэтага хаця дзяцей, якім бацькі часта на сьвятках лічаць патрэбным адпускаць пэўную норму гарэлкі, што п'юць самі. Гэткія парадкі нікуды, бязумоўна, ня варты. Калі дарослыя хварэюць ад гарэлкі, тым больш шкодзіць яна дзецям.

Адсюль выплывае яшчэ адна не малая задача, якую піонэр павінен умець разьвязаць—гэта праца сярод сваіх братоў і сясьцёр „неорганізаваных" яшчэ, як прывыклі на іх казаць. Акуратнасьць і прыкладнасьць самога і праца па растлумачваньню гэтым неорганізаваным карысных навыкаў, зробіць шмат чаго карыснага і для іх, і для бацькоў.

Ці-ж справіцца піонэр з усёй гэтай працай? Бязумоўна. Калі-ж ён спаткаецца з якой небудзь труднасьцю, дык недалёка й атрад. Трэба парадзіцца з павадыром атраду або з сябрамі савету атраду, як і што зрабіць у гэтым разе. Ды й наогул уся праца ў сям'і павінна быць узгоднена з атрадам і зьяўляецца асобным заданьнем для піонэра ў яго працы.

Вось прыблізна тыя галоўныя моманты і тая аснова, па якой павінна праводзіцца праца піонэра ў сям'і. І трэба адзначыць, што праца ў гэтай галіне досыць цяжкая і складаная. Адгэтуль і становіцца яснасьць той неабходнай чуласьці і разумнасьці, якая патрэбна ў працы. Трэба заўсёды старацца рабіць так, каб ад гэтага была якая небудзь карысьць. Тады зусім лёгка пойдзе справа.

Ніколі ня варта брацца за тое, чаго яшчэ добра не разумееш сам і ў чым сумняваешся. Ад гэтага можа здарыцца тое, што цябе палічаць за хвастуна, які „робіць толькі языком".

Абдуманасьць, акуратнасьць і жаданьне працаваць—вось што павінна стаяць на першым пляне ў піонэра, які сапраўды зацікавіцца працай у сям'і, з мэтай дапамагчы сям'і і Савецкай уладзе, якая клапоціцца за дабрабыт рабочых і сялян.

**Алёша.**






# Жыцьцё дзяцей ва ўсім сьвеце.

### Нямеччына.

У першы раз у гэтым годзе дзецям Нямеччыны ўдалося правесьці некалькі лагераў. Гэтыя лагеры мелі трохі іншы характар, чым нашы лагеры. Апрача мэты аздараўленьня, немецкія піонэры наладжвалі лагеры з мэтай агітацыі ў вёсцы, а таксама для лепшага зразуменьня колектыўнага дысцыплінаванага жыцьця.

Ніжэй мы друкуем ліст першага лагера.

„Дарагія піонэры Савецкага Саюзу! Ваш прыклад падаў нам думку організаваць лагеры ў сябе. Наш першы лагер у Нямеччыне знайшоў вялікі водгук сярод дзяцей рабочых. І так здарылася, што пры яго адчыненьні замест патрэбных 600— зьявілася 100 дзяцей.

Пагода таксама была кепская. Але ўсё-ж такі мы можам лічыць наш лагер за вялікі посьпех. У лагеры былі ня толькі піонэры, але таксама і неорганізаваныя дзеці. Калі былі сонечныя дні, мы пелі і гулялі, мы ставілі жартоўныя п'есы, у якіх высьмейваліся галоўныя недахопы капіталу. Таксама мы выдавалі насьценную газэту, якая часткова была напісана ў жартаўлівым характары. У гэтай газэце было ўсё тое цікавейшае, што адбывалася ў дні лагеру. Называлася яна „Горна лагера“. Час прайшоў вельмі хутка і нам дужа хацелася яшчэ застацца тут, нават тады, калі вецер дзьме праз дзіркі ў нашы гумны, дзе мы на сене спім. Але мы маем надзею, што хутка ў Нямеччыне мы зможам організаваць лепшыя піонэрскія лагеры за кошт той клясы, якая яшчэ цяпер пануе і ўладае намі. Мы пасылаем вам з нашага лагеру гарачае прывітаньне. Будзьце гатовы!

**Піонэры першага лагеру Нямеччыны.**



### Фінляндыя.

Аб гэтай краіне мала знаюць нашы піонэры. Але, ня гледзячы на гэта, і там кіпіць рэволюцыйнае жыцьцё сярод пролетарскіх дзяцей. Па ўсёй краіне ідзе жывая кампанія на карысьць 30.000 чырвоных сірат, якія засталіся ад рэволюцыі 1918 г. і разгрому Фінляндзкай Савецкай Рэспублікі.

Прыводзім ніжэй адну корэспандэнцыю з фінляндзкай дзіцячай часопісі „Чырвоны сьцяг“ (Пуналіпу).

„Маё імя Карл і мне 10 гадоў. З дзяцінства я стаў сьвядомым у барацьбе. Мой бацька памёр пад чырвоным сьцягам. Маёй матцы і мне жылося вельмі кепска. Часта мы елі адзін толькі хлеб з вадой. Ня гледзячы на наша кепскае становішча, матка выпісала для мяне часопісь „Пуналіпу“. Я пачаў пісаць у гэту часопісь. Адно маё апавяданьне было надрукавана. У адным нумары „Пуналіпу“ я прачытаў **заклік за падпіску новых сяброў на нашу часопісь. Я ўзяў аловак і кавалак паперы і пайшоў па дарогу.** У першым доме я знайшоў аднаго падпішчыка, у другім—другога. Гэткім чынам я знайшоў 10 новых падпішчыкаў. Праз тыдзень быў сход усіх падпішчыкаў часопісі, дзе і вынесьлі пастанову організаваць піонэрскі атрад Да гэтага атраду хутка прылучылася яшчэ 200 дзяцей“.

* * *

Гэтыя некалькі корэспандэнцый нашых замежных піонэраў паказваюць нам, наколькі піонэры капіталістычных краін надаюць каштоўнасьць сваёй **часопісі**, у якой яны самі прымаюць удзел і праз якую яны заклікаюць міліёны неорганізаваных дзяцей да аб'яднанага змаганьня супроць кепскага жыцьця дзяцей, эксплёатацыі дзіцячай вытворчасьці; супроць фашызма ў школах, за дармовыя школьныя прылады і школьныя снеданьні, за волю організацыі, за працоўную школу, за ўладу саветаў.

Піонэры СССР, усе на дапамогу піонэрскаму друку братэрскіх саюзаў за межамі!

**Рэгіна Кашэр.**

# Сярод вечнага лёду

**У вакеан на паляваньне. У маўклівай ледзяной пустыні *).**

Мэханікі і радысты захварэлі. Пачалі апухаць ногі і дзясны, з рота пахла. Начальнік патрабаваў:

— Таварышы, трэба больш руху. Гэтак нельга, вы канчаткова можаце захварэць. Мы ўвядзем працоўны рэжым: кожны дзень тры гадзіны абавязковай працы, кожны дзень пагулянкі.

Але мэханік і радысты ўжо не маглі працаваць як належыць, стомленыя ногі ня вытрымлівалі, рукі трэсьліся. Былі абыякімі да яды, да ўсялякіх гутарак, нават сум па іншым жыцьці утраціў сваю яскравасьць і выразнасьць—хацелася толькі спаць і спаць.

У сутачнай запісі было занатавана і пярэслана па радыё ў прастору:

„Напрамак ветра №-№-0, 10 балл. тэмпэр. павет.—97 с... Вакол лёд... Двое захварэлі цынгой, дапамагчы ім нічым ня можам“...

Надыйшла невялікая адліга, вецер сьцішыўся. Паўлюк Пятровіч запрапанаваў Уладзіку паехаць з ім на паляваньне:

— Дзянькі на два, на тры адлучымся ў мора, можа, часам, напаткаем белага... Захацелася нешта сьвежай мядзьвяжаціны.

— Добра!—Закрычаў ад радасьці Уладзік.—Мне даўно хацелася. А колькі сабак возьмем?

— Я думаю двое санак па шасьці сабак з кожнымі. А то як-жа мы? Не на сабе-ж пацягнем? Можа, часам, і пару прыкакошым.

— Эх, лепш ня трэба! Чэснае слова! Кандратавіч! Рыхтуйся мядзьведзявы акоркі пячы!—Уладзік весела пабег падрыхтоўваць сабак і нарты **).

Спачатку паехалі паўз узьбярэжжа, пасьля раздумаліся: павярнулі на заход ад поўначы, у адчыненае мора. Сабакі беглі весела і хутка. Толькі патрэбна было вельмі пільна глядзець наперад, каб не прагледзець лёдавых узгоркаў і зубчатай паверхні, дзе разламаны штормам лёд застыў гострымі каваламі. Здалёк усё гэта трудна было разглядзець, усё зьлівалася ў цёмнафіялетавым змроку. У гэтых мейсцах сабакі хутка паварачвалі ў бок, нарты далёка адкідала, і падарожнікі куляліся ў сьнег, іншы раз па некалькі сажняў ідучы за санямі.

Вакол распрасьціраліся неаглядныя сьнегавыя, жудасныя далі. Жудасныя таму, што яны ўразаліся ў чорную, непраглядную таўшчыню халоднай палярнай ночы. На пярэдніх нартах сядзеў Паўлюк Пятровіч, адзеты ў цёплую скуру аленя, на руках меў двайныя рукавіцы. У руках у яго была доўгая тонкая палка—„харэй“, якою ён кіраваў сабакамі. Час ад часу Паўлюк Пятровіч вызваляў адну руку ад цяжкой рукавіцы і вымаў з торбы дарожны компас—правяраў шлях.

Уладзік ехаў трохі з-заду. Адзеты ён быў таксама цёпла, у скураную самаедзкую вопратку,—адчыненымі былі толькі нос і вочы. Памахваючы палкай, ён весела галёкаў на сабак. Па цёмнаму, нібы тонкаму, небу чуць прыкметна паўзьлі цяжкія хмары. І сіня-шэры, мейсцамі, як попел, сьнег здаваўся вечным—ляжыць і будзе ляжаць нязьлічаныя вякі, такім-жа цёмным і маўклівым. І жыцьця тут ніколі ня будзе. І ня верылася, што наогул дзе-небудзь існуе. А вось ляжыць ва ўсім сьвеце такі-ж халодны, змрочны сьнег; ва ўсім сьвеце такая-ж вечная палярная ноч, і ў гэту ноч едуць яны ў дваіх—Паўлюк Пятровіч Забалоцін, маючы трыццаць шэсьць гадоў, і Уладзік Шылаў, якому яшчэ толькі шаснаццаць з паловай гадоў.—І жывых ва ўсім сьвеце толькі іх двое ды яшчэ з імі дванаццаць сабак. Здавалася нават дзіўным, што яны хутка, магчыма, напаткаюць мядзьведзя. Адкуль ён? Што яму тут рабіць сярод гэтай жудаснай ночы?

Паўлюк Пятровіч паглядзеў на гадзіньнік, затрымаў сабак, чакаючы Уладзіка, і прамовіў:

— Едзем тры з паловай гадзіны. Вёрст сорак, а то і ўсе паўсотні адмералі. Далей, мусіць, ня варта, давай тут паглядзім. Мне на Вайгачы*) казалі, што мядзьведзі больш

---

*) Адрывак з аповесьці **П. Нізавога.**

**) Санкі.

*) Востраў.

усяго сюды прыходзяць: тут цюленяў шмат жыве.

— Што-ж, давай, у мяне ногі нешта празяблі, троха трэба пагрэцца.—Уладзік зьлез з нартаў і пашоў з-заду іх.

Паўлюк Пятровіч таксама зьлез. Стомленыя сабакі йшлі не сьпяшаючыся, апусьціўшы касматыя ад інею хвасты і высунуўшы языкі.

Гэтак некаторы час маўчком ішлі за сабакамі, пільна ўглядаючыся ў даль і па баках—ці ня сочыцца дзе-небудзь пара над аддушынай цюленяў, ці ня відаць дзе-небудзь цяжкіх сьлядоў мядзьведзя?

—Тсс! Ціха!—Паўлюк Пятровіч узьняў руку, затрымліваючы сабак і паказваючы Уладзіку на даль.—Глядзі! - Бачыш пару?

— Бачу,—ціха прамовіў Уладзік, угледаючыся ў густую топкую цемень.

— Ну, вось. Напэўна, аддушына цюленяў. Цяпер трэба сабак пакінуць тут, а самім асьцярожна туды.

З сабакамі нельга—напужаем. Яны тут у нас на воку будуць.

Сабак выпраглі і прывязалі да саней, сані прымацавалі палкамі, уваткнуўшы іх глыбока ў сьнег, і самі, крадучыся, накіраваліся да таго мейсца, адкуль узьнімалася невялікая пара. Мароз што раз мацнеў, цямнелася ўсё больш і больш. Аддушына ўжо блізка. Ісьці нацянькі—гладка, ня пройдзеш незаўважаным. З левага боку ўзьнімаліся над гладзьдзю пастаўленыя на канты лёдавыя горы. Пачалі асьцярожна прасоўвацца ў той бок; ішлі зусім прыгнуўшыся, нячутна коўзаючыся па сьнезе. З-за лёдавых узгоркаў добра можна было разгледзець аддушыну, апранутую ў тонкую пялёнку лёду. Сьцішыліся, пачалі чакаць.

— Трэба было-б спачатку абыйсьці паглядзець, ці ёсьць сьляды—можа дарэмна толькі прасядзім тут,—сказаў Уладзік шэпатам.

— Мы паўгадзінкі, ня болей. Я адчуваю—дачакаемся. Вось толькі, мусіць, дрэнна што сабак ня ўзялі,—можна было-б пасадзіць іх тут, за горкамі. С сабакамі большая надзея.

— Я прывяду іх,—прашаптаў Уладзік, адчуваючы, як у грудзёх яго штосьці трывожна заныла. Не чакаючы адказу, ён бяз шуму шмыгнуў у цемень.

Раптам—лёгкі хрып і звон ад рассыпаных лёдавых кавалкаў. Паўлюк Пятровіч задрыжэў, нэрвова сьціснуў у руках стрэльбу. Над вадой паказалася цёмная маса і пачала цяжка хлёпацца ля палонкі. Праз хвіліну яна скокнула ў ваду, і зноў ціха. Патрэскаваў мароз. З далячыні глуха даносіліся нейкія нявыразныя гукі.

І зноў неўспадзеўкі пачуўся лёгкі трэск ценкай лядзінкі, якая пасьпела ўжо за гэты час заслаць сабой аддушыну, і зноў заплёхалася чорная маса. У гэты момант штосьці цяжкое мякка шлёпнулася, пасьля рванулася з вады і зноў выцялася, пачулася глухое, задаволенае зьвярынае бурчаньне. Скрозь пялёнку пары, якая сачылася ад гэтай цёмнай масы, Забалоцін разгледзеў вялікую постаць мядзьведзя, якая зьлівалася разам з ноччу ў адно цэлае. Ён стрэліў. Зьвер рвануўся спачатку ў бок Забалоціна, але ў гэты момант некалькімі галасамі заенчылі сабакі. Пачуўся яшчэ стрэл Уладзікаў, і мядзьведзь рвануўся ў бок, зьнік у цемені ночы.

— Уцёк!—закрычаў раззлаваны Паўлюк Пятровіч, вылазячы з-за ўзгорка, што затуляў яго ад відавоку. Мы як быццам моцна яму дагадзілі. Толькі гэтак яго ня возьмеш. Трэба ў галаву, або ў сэрца. Вось гэта няпрыемная рэч!—Пойдзем сьледам,—прапанаваў Уладзік,—далёка ня зойдзе, нападкаем.

Запрэглі сабак, паехалі. Сьлед ішоў няроўна: то загінаўся ўправа, то нечакана заварочваўся ўлева. Хутка ўзьняўся сьнегавы пыл і пачаў засыпаць шлях. Сьлед згубіўся. Ехалі яшчэ некаторы час надаўгад—нідзе нічога ня было.

— Ну, напэўна, прыдзецца кінуць,—сказаў Паўлюк Пятровіч, прыпыніўшыся.—Давай тут падначуем, мейсца нішто-б сабе. Вось тут, ля высокай лёдавай скалы. Калі падзьме вецер з паўдня ці з заходу—ня страшна, а ад паўночнага і ўсходняга—забаронены.

Вызвалілі сабак, паелі трохі кансэрвнага мяса з хлебам і пачалі наладжваць свой начлег. Для Забалоціна гэта было ня ў першы раз: ведаў, як трэба рабіць. Ён аблюбаваў ля гурты добрае мейсца, абцёр з большага сьнег, сані ўваткнуў стаяча, каб і ад ветру забараняла і не загнала куды-небдзь іх. Уладзіку сказаў залезьці ў скураны спальны мяшок і сам таксама залез у свой мяшок, палажыўшы поруч з сабой вінтоўку. Сабакі ляглі вакол іх кругам.

Уладзік, які ніколі не начаваў у гэткіх умовах і баяўся гэтага, цяпер быў зусім зьдзіўлены: ня так ужо і страшна, як здавалася, а галоўнае—у цесным скураным мяшку было вельмі цёпла. Да гэтага-ж, поруч—амаль бок ля боку—з ім ляжаў яго

Катлас і другія спадзейныя сабакі. На выпадак якой-небудзь бяды—разбудзяць. Хутка ён заснуў.

Сьнілася Ўладзіку яго родная сям'я: бацька, матка, малодшы брат; сядзіць ён з імі, п'е чай, апекваецца і пацее. А матка ласкава глядзіць на яго і гаворыць да яго свае шчырыя мацярынскія словы. Раптам за вакном нехта галосна зароў. Бацька з маткай і братам зразу прапалі. У вакно прасунулася чыясьці страшная рука, схапіла яго, выцягнула і кінула ў нешта мяккае.

Твар асьвяжыўся лёгкім холадам. Уладзік зразу-ж апамятаўся, высунуў з мяшка галаву і ў дзесяці кроках убачыў вялічэзную, шэраю постаць мядзьведзя, абкружанага сабакамі. Ён стаяў на задніх лапах сьпінай да Ўладзіка і паварачваўся ва ўсе бакі, наглядаючы за сабакамі. Часамі кідаўся на таго ці іншага, але сабакі спрытна выкручваліся ад яго ўдараў, а другія ў гэты час накідваліся на яго і рвалі з бакоў. Мядзьведзь злосна роў, пляваўся, заліваліся і сабакі.



Ён быў ужо амаль ля Ўладзіка, заносячы для ўдару страшную лапу сваю.

У першы момант Уладзік зусім спалохаўся, ня ведаў, што рабіць. Адчуваў толькі, што ад страху халадзее цела, дрыжаць рукі і ногі. Зараз сьмерць—зьвер пакончыць з сабакамі і возьмецца за яго. Ён ужо дваім сабакам дагадзіў страшнай лапай—яны недалёка ў баку круціліся і скавыталі. „Дзе-ж Паўлюк Пятровіч?"—успомніў раптам Уладзік.

Ён паглядзеў у той бок, дзе павінен быў ляжаць начальнік, і ўбачыў там вялічэзную кучу сьнегу, з якой вытаркалі передкі закіданых саней. Мільганула: „Трэба страляць". Але дзе-ж вінтоўка? Кінуўся ў бок гурбы і пачаў, як шалёны, разгрэбваць сьнег проста рукамі. Мядзьведзь падаўся да яго, але тутжа за яго зад рвалі сярдзіта сабакі. Зьвер прымушаны быў абараняцца, заставіўшы Ўладзіка ў баку.

Сьнегавая гурба ўжо шавялілася і адтуль паказалася галава Паўлюка Пятровіча. Уладзік схапіў з сьнега стрэльбу, амаль што бяз прыцэлу націснуў на спуск — толькі ціхі гук. Зноў націснуў. Таксама нічога. Толькі пасьля таго, як быў заложаны новы патрон, пачуўся стрэл. Мядзьведзь павярнуўся, зароў і рашуча рынуўся ў бок сапраўдных сваіх ворагаў, не зьвяртаючы ўвагі на сабак, якія рвалі, крывавілі яго зад. Ён быў ужо амаль ля Ўладзіка, заносячы для ўдару страшную лапу. У гэты час стрэл Паўлюка Пятровіча ў правае вуха зразу зваліў мядзьведзя на лёд. Сабакі накінуліся на яго з шалёнай сярдзітасьцю, але ўбачыўшы, што ён не варушыцца, пачалі абнюхваць і лізаць з яго ран густую кроў. Пасьля кінуліся да Ўладзіка і Паўлюка Пятровіча і пачалі радасна брахаць.

Два, якія папалі пад удары лапаў, усё яшчэ скавыталі, дрыжэлі і змагаліся з сьмерцю. Гэта былі Маўра і Нэрон.

Праз хвіліну Маўра памалу адкінула галаву, выцягнулася і замерла. Нэрон дрыжэў і ціха стагнаў. Уся сьпіна яго ўяўляла адну суцэльную крывавую рану. Уладзік нагнуўся да свайга любімага сабакі і зараз-жа адскочыў, закрычаў усхвалявана:

— Прыстрэль яго! Глядзі, як ён мучыцца! Ён плача! Пачалавечаму плача!.. Паўлюк Пятровіч падыйшоў і спакойна выпусьціў зарад у галаву паміраючага сабакі. Пасьля не сьпяшаючыся і ўпэўнена пачаў патрашыць зьвера. Сабакі сядзелі паўкругам і чакалі свае часткі.

— Шкада, учарашні ўцёк—два было-б. Мяса хапіла-б на цэлую зіму,—сказаў ён, спрытна заварачваючы пушністую белую скуру.

Уладзік нічога не адказваў—быў яшчэ ўсхваляваны ад страты свайго любімага сабакі.

Скончыўшы з мядвезьдзем і пакарміўшы сабак, завярнуліся назад у дарогу. Сабакі цяпер беглі не з такой хуткасьцю, як уперад: груз мядзьведзя быў даволі значным. Яны выцягваліся, напруджваліся з усёй сілы. Тых, якія везьлі лянуючыся, самі-ж і падганялі, хватаючы іх зубамі за бакі і за шыю.

Ехалі доўга, замерзьлі і захацелі есьці. Зьлезьлі, пайшлі пяхотай, каб адагрэцца і даць сабакам воддых. Пасьля ізноў селі. Вакол была толькі ноч і безканцовая сьнегавая пустыня. Паўлюк Пятровіч паглядзеў на компас і на гадзіньнік.

— Палову шляху, напэўна, праехалі. Вось толькі-б пагода не зьмянілася.

Захацелася спаць. Гэтак-жа сама, як і ўчора, выбралі добрае мейсца, выпраглі сабак, залезьлі ў мяшкі і заснулі, забыўшыся аб доўгім шляху, аб пагодзе, аб зьверах.

Прачнуліся, пажавалі хлеба, накармілі медзявяжацінай сабак і—ізноў у дарагу. Ізноў тая-ж ноч і сьнягі, зблізку цёмна-папяловыя, чым далей—цямнейшыя і цямнейшыя, а ўдалі жудасная сьмяртэльная цемень. Няма за што зачапіцца поглядам, няма чым парадаваць або заспакоіць душу. Усё быццам вымецена: гладзь і ціш, ні адзінага гука. Сьмяртэльнае маўчаньне. Зрэдку перад вачыма вырастаюць сьнегавыя ўзгоркі і лёдавыя прасторы, зрэдку сані неўспадзеўкі ляцяць на бакі, і Уладзік з Паўлюком Пятровічам скідаюцца з іх. Сабакі прывычныя да гэтага супыняюцца і чакаюць, пакуль людзі сядуць. А тыя, лаючыся, абіваючы сьнег ад вопраткі, ізноў садзяцца і йзноў едуць.

Ці хутка ўжо канец? Чаму гэтак доўга берага няма?—гаворыць Уладзік, падыходзячы да пярэдніх саней.

Паўлюк Пятровіч прыпыняе сабак, вымае компас, шчупае і раптам спужана заяўляе:

— Разьбіў, мусіць, калі выкінуўся на апошнім вывараце.

Спыняюцца. Уладзік вымае кішэнны электрычны ліхтарык: разглядваюць.

Зусім нікуды ня варт. Гэта дрэнна. Можам заблудзіцца.

А ты папробуй бяз шкла, пастаў стрэлку і прытрымлівай,—радзіць Уладзік. — Нам толькі-б цяпер вызначыць мейсца, дзе мы.

Паўлюк Пятровіч, зьняўшы рукавіцы, прабуе ўсялякімі спосабамі паставіць сагнутую магнэсавую стрэлку, але яна ня трымаецца. Паўлюк Пятровіч стараецца выпрастаць яе, яна ломіцца. Значыцца, з компасам усё скончана, цяпер прыходзіцца даверыцца свайму ўласнаму адчуваньню, выпадку. Садзяцца і йзноў едуць у тым-жа напрамку.

Акеян, як і раней, маўклівы і навакол тая-ж сьмяртэльная халодная ноч. Узьняўся вецер, пачало пераметваць сьнег. У Паўлюка Пятровіча неўспадзеўкі выплыла думка—ці туды яны едуць, куды трэба? Вельмі-ж доўга едуць, а няма берагу. Можа ўзяць крыху ў права? Паглядзеў на гадзіньнік. Ехалі цэлую гадзіну. Значыцца, праехалі ня менш 70—80 вёрст. А берага ўсё няма. Калі толькі яны едуць ля берагу, дык даўно ўжо мусіць быць мыс Марэ-Сале. Вядома—заблудзіліся. Толькі што ён дапусьціў гэту думку, як зараз-жа паверыў ёй. Хутка павярнуўся да Уладзіка і, стараючыся быць спакойным, сказаў:



Юныя майстры.

— Мне здаецца, мы едзем ня туды. Даўно павінны быць дома, а тут і прыкметаў берагу ня відаць. Трэба што-небудзь прыдумаць.

— Што-ж цяпер нам рабіць?—спалохаўся Уладзік.

— Ды пакуль што ня ведаю. Калі-б паказаліся зоркі—можна было-б вызначыць дарогу і бяз компаса.

— Я думаю, сюды—паказаў Уладзік налева.—Тут новая зямля, там—Вайгач, а вось у гэтым баку—Марэ-Сале.

Паўлюк Пятровіч, падумаўшы трохі, прамовіў:

— Калі йсьці так, як ты кажаш, дык мы проста да канцавосься дабярэмся або, у іншым выпадку, да вострава Уедзіненьня. Трэба сюды.

Паехалі йзноў у тым-жа самым напрамку. Ехалі доўга—усё той-жа малюнак: ніякіх прыкметаў берагу няма. Цяпер было бяспрэчным, што едуць ня туды. Ізноў прыпыніліся на начлег. Узятыя з сабой харчы скончыліся. Павячэралі сырым зьмёрзлым мясам мядзьведзя бяз хлеба, у раньні сабак кармілі гэтымжа мясам. Ішлі яшчэ гадзін пяць—ніякіх сьлядоў зямлі. Абое зусім страцілі надзею. У Паўлюка Пятровіча нечакана мільганула думка:

— А ведаеш што,—павярнуўся ён сьпешна да свайго сябра,—ня будзем кіраваць сабакамі, няхай ідуць самі. Яны лепш за нас разьбіраюцца—магчыма, і прывядуць да хаты.

Уладзік падыйшоў да Катласа, які быў запрэжаны ў пярэдняй пары, пагладзіў яго і пачаў угаварваць:

— Ну, Катласік, мілы, дамоў! Ступай дамоў! Ну, мілыя сабачкі, ратуйце нас. Дамоў! Дамоў!—Ён пагладзіў кожнага і яшчэ раз прагаласіў:—Дамоў! Дамоў!

Сабакі рушыліся. Цяпер наперадзе быў Уладзікаў воз. Пайшлі хутчэй.

Сабакі ня беглі па простай лініі, яны спачатку крута павярнулі налева. Пасьля ўзяліся трохі ўправа, а там ізноў налева—як быццам ішлі па нейкаму следу.

Ехалі йзноў гадзін шэсьць або сем. Думалі ўжо спыніцца на начлег, як раптам Паўлюк Пятровіч радасна паказаў:

— Глядзі—бераг! Зямля!

Уладзік паглядзеў наперад і сэрца яго напоўнілася радасьцю. Ён закрычаў:

— Праўда! Зямля! Зямля! Ды гэта, мусіць, Марэ-Сале! Глядзі, вунь скала! Хутка пабачым мачту!

І сапраўды, трохі пачакаўшы, можна было бачыць і радыё-мачту.

— Яшчэ трохі! Мілыя! Мілыя! Выратавалі! Расхваляваны Уладзік ужо не адчуваў ні стомленасьці, ні голаду, ні болі абмарожанага твару. Па ўспухшым і пабялеўшым шчокам яго паўзьлі і застывалі радасныя сьлёзы.

**Паўлюк Нізавы.**

# Навука і тэхніка.

### Значэньне прывівак ад воспы.

Якое вялікае значэньне маюць прывіўкі ад воспы, можна пабачыць па падліках аб тым, колькі людзей паміраe ад гэтай хваробы. Так, напрыклад, у Нямеччыне 60 гадоў таму назад прывіўкі ад воспы былі не абавязковымі, і тады на мільён жыхароў памірала ад воспы 620 чал. у год. Праўда, з кожным годам сьмерць ад воспы зьмяншалася і ў 1870 г. зьменшылася да 175. Але ў 1871 і 1872 г. г. зьявілася эпідэмія гэтай хваробы, так што за год пачало паміраць па дзьве з паловай тысячы чал. Гэта прымусіла ўрад у 1874 г. выдаць закон аб абавязковай прывіўцы воспы ўсім грамадзянам, і калі гэта было зроблена, то на наступны год на мільён жыхароў у сярэднім памірала 36 чалавек. А ў сучасны момант у Нямеччыне паміраe адзін чалавек на 30-40 мільёнаў жыхароў.

У нас у зьвязку з недахопам мэдыцынскай дапамогі, воспа знайшла сабе надзвычайна добры грунт.

Падлік аб тым, колькі памірала ад воспы, зьбіраўся царскім урадам у цэрквах па мэтрычным запісам, і быў з гэтай прычыны ня зусім поўным. І вось па гэтых няпоўных падліках у Эўрапэйскай Расіі на кожны мільён жыхароў у сярэднім памірала 400-500 чал.

Савецкі ўрад, які зьвярнуў вялікую ўвагу на ахову народнага здароўя, яшчэ два гады таму назад выдаў закон аб абавязковай прывіўцы воспы. З правядзеньнем гэтага закону ў жыцьцё ў гарадох, дзе ёсьць шмат дактароў і бальніц, там гэтая хвароба адразу значна зьменшылася. Але яна, зразумела, не магла так зьменшыцца ў мястэчках, вёсках, дзе гэты закон не так пашырыўся.

З цягам часу, у сувязі з узростам мэдыцынскай дапамогі на вёсках і з узростам культурнага дасягненьня нашага насельніцтва, мы таксама пазбавімся ад воспы, як пазбавіўся ад яе цэлы шэраг другіх народаў.




**Пра зьмест нашых допісаў.**

Шмат хто з нашых чытачоў ужо заўважаў рэдакцыі на хібы зьмяшчаемых допісаў саміх дзяцей. Допісы такія, якія друкуюцца ў нашай часопісі цяпер, становяцца няцікавымі, сумнымі. Яны ў большасьці падобны адзін на другі. Усе яны гаворацъ аб агульным: атрад працуе добра, або атрад працуе дрэнна.

Гэткія заўвагі ў адносінах да зьместу нашых допісаў трэба лічыць зусім правільнымі. Бо, папраўдзе, калі гэтак будзе і на далей, мы зможам толькі адбіваць ахвоту піонэраў да чытаньня аддзелу „Н а ш а ж ы ц ь ц ё.“

Рэдакцыя з свайго боку ўвесь час ідзе на спатканьне сваім дапішчыкам. Шмат ужо гутарак было зьмешчана на тэму, падобную гэтай. Бязумоўна, сякія-такія і вынікі ад гэтага маюцца Даволі таго, што шмат якіх таварышоў-піонэраў прыходзіцца друкаваць матар'ял бяз рэдакцыйных паправак (правільная граматыч. пабудова, лёгічны сэнс). Але ўсё-ж гэтага зусім мала для таго, каб забясьпечыць цікавы і грунтоўны на фактах зьмест аддзелу „Наша жыцьцё.“

У гэтым артыкуле нам хочацца зьвярнуць увагу ўсіх сваіх дапішчыкаў на апрацоўку допіса і на яго зьмест.

Пачнем ад фактаў, бо факты—рэч „упрамая“, як кажуць расійцы.

У папярэднім нумары нашай часопісі зьмешчаны два аднолькавыя, як здаецца на першы погляд, допісы—гэта аб лагеры дзіцячага гарадка імя А. Г. Чарвякова. Адзін допіс Горана, дзе суха ўказана толькі на тое, што адчыніўся лагер, падшукана абсталяваньне для яго і—усё. У другім допісе (П. Праўдзівага) даецца цэлы малюнак з жыцьця дзяцей у лагерах. Тут лагеры з іх насельнікамі выйшлі самымі жывымі, сапраўднымі. Калі прачытаеш гэты малюнак, ты можаш сабе добра ўявіць, што робіцца ў лагеры наогул, як жывуць дзеці і г д. Нічога гэтага ня знойдзеш у першым допісе. Гэтыя допісы варта пачытаць і параўнаць між сабой. Зьмешчаны яны рэдакцыяй назнарок, каб зьвярнуць увагу на іх сваіх корэспандэнтаў („Б. П.“ № 8). Тут варта таксама зьвярнуць увагу на тое, як лепш пісаць допісы на большменш шырокія, агульнага характару, тэмы (лагер, жыцьцё атрада, школы).

Поруч з гэтым нельга ня спыніцца яшчэ на адным важным моманце ў пісаньні допіса—гэта аб вылучэньні паасобных яскравых і цікавых фактаў з агульнага. Куды лепш будзе, калі корэспандэнт возьме асобны факт з галіны грамадзкай працы (калі аб ёй ідзе гутарка) і жыва малюнкова перадасьць гэты факт, чым ён будзе гаварыць аб сходах, пратаколах, пастановах і вечарох, прысьвечаных гэтаму пытаньню.

Зьвернемся йзноў да прыкладаў. У нас маюцца два допісы на адну і тую-ж самую тэму—„Сход з бацькамі.“

І-шы допіс:

„25 верасьня ў нашым атрадзе адбыўся сумесны з бацькамі сход. На сходзе ставіліся пытаньні: „Праца атраду за мінулы час“ і „Аб організацыі ў вёсцы другога атраду“. Сход прайшоў жыва: было шмат пытаньняў з боку бацькоў. Парашылі організаваць другі атрад. Сход закончыўся сьпевамі гімна.

**Піонэр М.**

На гэтую-ж самую тэму другі корэспандэнт піша так:

**„Доўга не змаглі дачакацца нашы піонэры сумеснага з бацькамі сходу. Кожнаму рупіла: пахваляць нашу працу, ці паганяць. А самае галоўнае—ці прыхільна аднясуцца бацькі да існаваньня атраду і надалей.**

**Наш павадыр, Мішка, як перад залікамі, непакоіўся, бегаў, зьбіраў матар'ялы і рыхтаваўся да дакладу. Гэта ня хаханькі: сход з бацькамі!**

**Урэшце чаканы дзень настаў. Клюб ажывіўся не пазвычайнаму. Звонкія дзіцячыя галасы зьліваліся з тоўстымі басістымі. Яшчэ да пачатку сходу чулася з усіх куткоў клюбу гутарка дзядзькоў аб атрадзе і піонэрах:**

**— Ды яно-ж як ня ведаеш добра сам гэтага атраду, дык здаецца, што там унь што: адзін грэх, распуста,—гаворыць дзядзька Цімох, ранейшы вораг атраду, да свайго суседа Якіма.**

**Дай ты рады,—гэткім-жа быў і я...**

**Але вось раптам вырваўся з грамады моцны зьвінючы голас:**

**— Мужчыны і піонэры!—сядайце, будзем пачынаць.**

**Гэта пракрычаў Мішка. Усе паслухалі і селі. У клюбе цішыня, ідзе даклад...**

**...А пасьля—спрэчкі, прамова бацькоў. Спачатку палаялі нас за тое, што маўчалі перад імі аб сваёй працы і мэтах атраду. Пасьля—хвалілі. Нават цётка Віктося, старая ўжо, згорбленая ад працы, і тая ўзяла слова:**

**— Любата... мужчынкі, жаначкі... даўней бывала ў мяне ніводнага гарбузіка няма, а цяпер цэлых дзьве дзедавых калошы насыпала... Дзеці паважаюць мяне старую...**

**Наш Мішка ад радасьці чуць не падскаквае на сцэне. Усе піонэры гэтак сама задаволены, весела ўсьміхаюцца, пераміргваючыся адзін з другім.**

**А як разыходзіліся, павадыр ўнёс прапанову сьпець гімн, на што ўсе згадзіліся.**

**Пасьля сходу ў кожнага зьявілася думка: надалей трэба яшчэ лепш пастарацца.**

**Піонэр К.**

Як бачыце вялікая розьніца між першым і другім допісам. У другім допісе нават прапушчана аб тым, што на сходзе ставілася пытаньне аб арганізацыі новага атраду—гэта, па думцы корэспандэнта, можа быць асобнай тэмай.

Вось на гэта трэба зьвярнуць нашым дапісчыкам асаблівую ўвагу. Факты бяз тых умоваў, пры якіх яны жывуць, могуць быць мёртвымі і ня цікавымі. Гэтак-жа сама трэба старацца браць для допісаў асобныя моманты з жыцьця і працы атрадаў, а не агульнае, якое можа зацямняць сабой галоўнае, тое, аб чым хацеў напісаць аўтар.

**А. Я—віч.**

## Нас спавівалі.

Словы Ўл. Дубоўкі. Муз. М. Равенскага.

## Нас спавівалі.

Нас спавівалі туманам балоты,
сіняя, чорная, шэрая мгла.
Маці хадзіла у двор на работу,
сына ў пасьцілцы на карку нясла.

Нас калыхалі вятры над мяжою,
соўкалі сьцюжай іглістай дажджы.
Клён забаўляў нас лісьцём масянжовым.
Сэрца малое дрыжыць і дрыжыць...

І над калыскаю ціха шумела,
гнулася нізка палын-лебяда.
Мы і сьмяяліся, нават, нясьмела:
сьлёзы і сьлёзы, за імі бяда...

Усё адзьвінела, мінула навекі,
больш а-ніколі ня прыйдзе назад.
Высахлі нашых матуляў павекі,
гэй! зашумі над балотам лаза...

Наша Рэспубліка моцную веру
нам прышчапіла у працу людзей.
Дзеці рабочых-селян, піонэры,
сіла вялікая з намі ідзе.

І ў Бабруйску, і Слуцку, і Менску,
Полацку, Віцебску, Воршы—агнём,
вогненным морам юнацкая зьмена.
Мы Комсамолу на зьмену ідзём.

Будзем змагацца за лепшую долю,
пойдзем на Захад, паложыма гаць.
Чорных туманаў ня будзе ніколі,
зьнікла навекі з вачэй нашых мгла!

# Хто хоча паехаць у Маскву дармова.

## Для гэтага патрэбна зрабіць лепшую модэль.

Рэдакцыя часопісі „Знание — сила“ абвясьціла конкурс на лепшую модэль. Усім тэхнічным сельска-гаспадарчым гуртком, гурткам юных натуралістаў і асобным чытачам, прапануецца зрабіць модэль па тэхніцы сельскай гаспадаркі, або якую небудзь фізычную прыладу.

Можна зрабіць модэль: — паравой машыны, дынама-машыны, турбіны, самалёта, трамвая, тэлефона, тэлеграфнага апарата, саўхоза, маста, сельска-гаспадарчых машын. Модэль павінна быць зроблена па магчымасьці з самых простых матар'ялаў і па магчымасьці самымі простымі прыладамі. Тэрмін выкананьня пастаўленай задачы — 15-га лістапада г. г. Да гэтага часу ўсякі, хто падрыхтаваў модэль павінен прыслаць у рэдакцыю:

1. Фатаграфію зробленай модэлі.

2. Рысунак і 3. Падрабязговае апісаньне, як зрабіць модэль. Апрача гэтага патрэбна даць свой адрас, імя, прозьвішча аўтара, яго ўзрост, калі вучань, то дзе вучыцца. Уваходзіць у склад піонэраў ці комсамольцаў і число, калі высланы ліст.

Ацэнка модэлі павінна быць зроблена на мейсцы. Для гэтага неабходна паслаць спраўку аб тым, што падрыхтаваная модэль абгаварвалася ў колектыве піонэрскага атраду, школы, або комсамольскай ячэйкі, ці што яна зроблена асобным таварышам.

За лепшыя модэлі будуць дадзены прэміі.

Каштоўнасьць выкананьня пастаўленых конкурсам задач і разьмяркаваньня прэміяў будзе рабіцца рэдакцыйнай колегіяй часопісі „Знание сила“. Пры ацэнцы работы прымаецца пад увагу час патрачаны на выкананьне, найбольшае дасягненьне ў штукарсьцве, орыгінальнасьці зробленай модэлі, а таксама ўзрост і падрыхтоўка прымаючых удзел у конкурсе. Прозьвішчы аўтараў, якія выканаюць запатрабаваньні конкурсу, будуць надрукаваны.

Тых, хто да часу конкурсу ня выканаў сваёй працы, рэдакцыя просіць прыслаць фатаграфіі і апісаньне зробленай модэлі. Бо гэтая праца можа быць скарыстана для надрукаваньня ў часопісі.

Большасьць прэміяў — дармовая паездка ў Маскву.

# Паштовая скрынка.

**Рагнедзе Б.** — Твой верш „Прысьведчаны Станькаўскай калёніі імя „Маладога Аратага“ — ня пойдзе. Пра гэтае здарэньне лепш было-б напісаць корэспадэнцыю. Верш больш падыходзіць да насьценнай газэты, чым для часопісі.

**М. Вярбовічу і С. Хведаровічу** — Ваша апавяданьне „Першае спатканьне“ ніякай мастацкай вартасьці ня мае. Думкі ў ім выключна няма ніякай. А што простыя сялянскія хлопцы сустрэліся ў лесе з піонэрамі... і толькі. Гэта просты і ня дужа цікавы факт. Трэба больш працаваць над сваімі творамі, выбіраць самыя жывыя, новыя і цікавыя для ўсіх дзяцей тэмы.

**Р. Хацкевічу** — Тваё апавяданьне „На першым дні вялікадня“ зьяўляецца не мастацкім творам, а артыкулам на антырэлігійную тэму. Такія артыкулы ўжо зьмяшчаліся па розных часопісях. Шлі новыя. Асабліва вялікую ўвагу зьвяртай на мову і стыль. У цябе апавяданьне атрымліваецца досыць сухім з боку літаратурнай апрацоўкі. Калі такой літаратурнай апрацоўкі ня будзе — апавяданьне становіцца простым допісам, артыкулам і губляе сваю вартасьць.

**Р. Мартыненку** — Рэдакцыя прапануе пісаць табе пакуль што допісы і невялічкія абразкі, вучыцца на іх, а потым ужо можна брацца за сталыя мастацкія творы. Асабліва ня трэба сьпяшацца пісаць драматычныя творы, бо гэта самая цяжкая частка наогул у творчасьці. Твая п'еска напісана зусім слаба з боку праўдзівасьці і тэатральнасьці.

**М. Талькову** — Тое самае можна сказаць і пра тваю п'есу „Піонэры Заходняй Беларусі“. Заганы ў ёй тыя ж самыя, як і ў п'есе Р. Мартыненкі.

**А. Нецярпліваму** — Апавяданьне „Увечары“ да друку не падыходзіць. Раней чым пісаць апавяданьне, трэба ясна ўявіць тое, пра што будзеш пісаць, бо йначай твае гэроі будуць мёртвымі і ў сваёй дзейнасьці зусім ня цікавымі. Гэтак-жа атрымалася і ў тваім апавяданьні.

**Да ўсіх нашых корэспондэнтаў!**

Рэдакцыя чакае ад вас допісаў, дзе-б высьвятляліся наступныя пытаньні:

1. Праца піонэраў у сям'і (конкрэтныя прыклады, што зробена ў гэтай галіне).

2. Школьнае жыцьцё: самакіраваньне, формы яго, сходы і г. д. (дзе і як вядзецца праца).

3. Жыцьцё (быт і праца) дзіцячых дамоў.

4. **Як ідзе справа ў вас у школе, атрадзе, зьвяне з пашырэньнем часопісі. „Беларускі Піонэр“**, дзе яшчэ ня выпісалі часапісі і адносіны дзяцей наогул да сваёй часопісі?




**Задача № 1.**

Нехта раніцаю 1-га кастрычніка выехаў на паштовым цягніку з Севастопаля ў Маскву і па дарозе купляў кожны сьвежы нумар „Праўды“.

Колькі ён купіў нумароў газэты, калі ён ехаў роўна 3 дні?

**Рэбус.**




**Як разьмінуцца?**

Па рацэ плывуць 2 параходы: „Ленін“ і „Сталін“; насустрэчу ім плывуць 2: „Рыкаў“ і „Калінін“. У гэтым мейсцы рака гэтак вузка, што параходам нельга разьмінуцца, але з аднаго боку ракі маецца затока, у якой можа зьмясьціцца адзін параход. Як разьмінуцца параходам?




**Загадка-жарт.**

Варона ляціць, сабака на хвасьце сядзіць. Што гэта?

**Геаграфічная задача.**

1, 2, 3, 4, 5, 2—галоўны горад РСФСР.

6, 7, 8, 3, 6, 9—рака Сібіры.

7, 6, 1, 2, 7—рака заходняе Беларусі.

3, 10, 11, 12, 2, 4—горад заходняе Беларусі.

4, 13, 11, 7, 14—горад у Літве.

Паставіць замест лікаў літары, прычым аднолькавыя лікі азначаюць аднолькавыя літары. Першыя літары гэтых слоў, пры чытаньні зьверху ўніз, павінны скласьці горад Беларусі. Якія гэта словы і які горад?

**Задачка № 2.**




Зложыць з верхніх гэомэтрычных фігур (што знаходзяцца ў рамцы) усе іншыя фігуры (серп, молат, зорка і г. д.).

**Выпісвайце і пашырайце сваю часопісь „Бел. Піонэр“!**